PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 5 (2229) Год XLIV Беласток 31 студзеня 1999 г. Цана 1,20 зл.

## Планы маладзёжнага супрацоўніцтва

У чацвер 14 студзеня г.г. у Беластоку было падпісана пагадненне аб супрацоўніцтве паміж маладзёжнай арганізацыяй польскай партыі Унія вольнасці „Młodzi Demokraci" і беларускім „Маладым фронтам". Пагадненне пачынаецца з прэамбулы: *Арганізацыі, свядомыя вялікага значэння супрацоўніцтва Польскага Народа і Беларускага Народа ды ўплыву маладзёжных арганізацыяў на міжнародную кааперацыю, вырашаюць пачаць цеснае супрацоўніцтва, ахопліваючае:* І далей прыводзіцца пералік галін супрацоўніцтва, м.інш.:

— абмен інфармацыямі, асветнымі, культурнымі і спартыўнымі матэрыяламі ды фільмамі, якія кранаюць сітуацыю моладзі ў абедзвюх краінах;

— Малады фронт па меры сваіх магчымасцей абавязваецца інфармаваць беларускае грамадства пра актыўнасць польскіх дэмакратычных палітычных партый, асаблівую ўвагу адводзячы дзейнасці згуртавання „Młodzi Demokraci";

— згуртаванне „Młodzi Demokraci" абавязваецца рэгулярна дасылаць на адрас Цэнтральнай рады Маладога фронту ў Мінску часопісы „Nasze Strony" і „Demokrata", а Малады фронт — рэгулярна пасылаць на адрас Беластоцкага праўлення часопісы „Маладзёвы веснік" і „Рокаш";

— абедзве арганізацыі будуць шанаваць прынцыпы дэмакратыі і правы чалавека і супольна будуць намагацца стымуляваць і інтэнсіфікаваць польска-беларускае супрацоўніцтва шляхам арганізацыі летніх маладзёжных лагераў, курсаў і канферэнцый па актуальных гаспадарчых, грамадскіх і палітычных тэмах;

— згуртаванне „Młodzi Demokraci" будзе хадайнічаць за прадстаўленне ў польскіх ВНУ месцаў для студэнтаў звольненых з беларускіх ВНУ за апазіцыйную дзейнасць.

У асобнай лістоўцы згуртаванне „Młodzi Demokraci" інфармуе, што „zdecydowało się na podjęcie ścisłej współpracy z organizacjami młodzieżowymi zza wschodniej granicy, które w podobny sposób widzą współczesną formę państwa jako organizacji społecznej opartej na zasadach Wolności, Demokracji i Wolnego Rynku". За адну са сваіх мэтаў згуртаванне ставіць „nawiązanie współpracy z młodzieżą białoruską w Polsce", а эфектам дзейнасці мае быць м.інш. „pośredniczenie w wyjaśnianiu wzajemnych nieporozumień o zasięgu lokalnym między Polakami, a obywatelami narodowości białoruskiej zamieszkującymi w Polsce".

У 1999 годзе Згуртаванне плануе наладзіць некалькі семінараў, тэмы якіх маюць ахопліваць м.інш. шанаванне правоў чалавека ў Беларусі, польска-беларускія суадносіны на працягу стагоддзяў, вырашэнне праблемаў вярэдзячых узаемаадносіны з нацыянальнымі меншасцямі.

Аляксандр Вярбіцкі



*Сцэна са спектакля „Тры высокія кабеты" Эдварда Олбі.*

## Навагодні спектакль у тэатры

Хаця ў тэатры імя Аляксандра Вянгеркі ідзе капітальны рамонт, яго дырэкцыя імкнецца хоць неяк запоўніць тэатральныя прабелы. Да позняй восені ішлі спектаклі ў жвіроўні ў Агароднічках. „Антыгону" Сафокла ігралі там аж да вялікіх маразоў у лістападзе. Апошні спектакль далі 23 кастрычніка 1998 года.

Два спектаклі былі пастаўлены ў сцэнічнай „кішэні" і на камернай сцэне тэатра. Пакуль рамантуецца вялікая зала, акцёры, такім чынам, не марнуюць часу.

Прэм'ера спектакля Эдварда Олбі „Тры высокія кабеты" адбылася на малой сцэне 12 снежня, а 13 студзеня кіраўніцтва тэатра зрабіла сюрпрыз праваслаўным. У канцы Новага года запрасіла ахвотных на спектакль з бакалам шампанскага.

Дырэктар Анджэй Кароляк б'ецца ў грудзі, што ўсё гэта не ён, а Анджэй Баркоўскі, кіраўнік бюро абслугоўвання гледача, прыдумаў. Так ці інакш, але быў гэта добры пачатак рэалізацыі добрай ідэі.

Скажу па-бабску: не памятаю, калі ў беластоцкім тэатры (а што ўжо гаварыць пра камерную сцэну) было столькі гледачоў, апранутых так элегантна. Большасць жанчын была ў чорным, мужчыны — таксама ў цёмным. Урачысты настрой, прамова і віншаванні дырэктара А. Кароляка, а пасля тое шампанскае — усё гэта стварала непаўторную атмасферу „праваслаўнага Сільвестра".

Ды і спектакль у рэжысуры Ежы Гутка быў харошы. Тры актрысы: Дарота Радомская, Эва Палінская і Іаланта Бароўская, — іграюць ролю адной і той жа кабеты, толькі ў розныя перыяды яе жыцця. Асабліва яскравай была роля дзевяностагадовай, паміраючай сёння жанчыны, якую выконвала Дарота Радомская.

Як цяжка ўразумець маладому чалавеку, што і яго не абміне канец жыцця, што ўсё тое, што пачынаецца, мусіць мець свой канец. П'еса гэта кранае цяжкія праблемы людской экзістэнцыі, а адначасова перапоўнена гумарам, укладзеным у вусны 92-гадовай кабеты, і гэта дазваляе гледачу пазайздросціць гэтай старой: кожны хацеў бы так памерці!

Яшчэ раз хачу падкрэсліць, што быў гэта добры пачатак. Спадар Баркоўскі, арганізуючы навагодні вечар, звярнуўся да нас, у „Ніву", да БГКТ, ва ўстановы, з якімі тэатр пастаянна супрацоўнічае, як напрыклад, „Ортдрук" ці да беластоцкіх энергетыкаў, дзе сацыяльнымі справамі займаецца Ніна Нікалаюк, з просьбай дапамагчы.

І вынікі аказаліся плённыя. Нават акцёры сказалі, што такія сустрэчы даюць сэнс іх працы. Спадар Баркоўскі марыць, каб у будучым годзе, ужо пасля рамонту, арганізаваць такі вечар у вялікай зале тэатра, ды з міні-банкетам у адноўленым фае.

Многае залежыць аднак і ад таго, якімі грашыма будзе распараджацца тэатр. Прынамсі сёння ўжо вядома, што яго бюджэт абмежаваны нашымі ўладамі да 40 працэнтаў мінулагодняга, а калі яшчэ ўзяць пад увагу committed нястрымную інфляцыю...

Але, як кажуць, жывы пра жывое думае. Мы са свайго боку хацелі б падказаць, што пры падборцы рэпертуару на будучы год варта было б выбраць нешта з беларускай ці рускай драматургіі. На такі вечар і рэпертуар павінен быць адпаведны, для праваслаўных, так сказаць.

Ну, а наогул мо лепш было б наладзіць святкаванне праваслаўнага Новага года, менавіта 14 студзеня. Мо тады прыйшлі б не толькі не балюючыя на Сільвестра, але і тыя, што ўжо адбалявалі з 13-га на 14-ае.

Ада Чачуга

## Выканаць закон Хрыстовы

Урачыстая вячэра не абмежавалася толькі да спажывання страў. Духовай стравай было выступленне калядоўшчыкаў са звяздой. Цудоўны канцэрт калядак падрыхтавалі вучні арлянскай школы пад кіраўніцтвам псаломшчыка Дзмітрыя Мартыновіча. Незвычайную звязду, якую састаўлялі шэсць рознай велічыні паасобных зёздаў, зрабіў сямікласнік Віця Каляда з Кашалёў.

[куцця для адзінокіх ☞ 3]

## Пры камуне жылося...

Сентыментальна ўспамінаюць камунізм таксама сялянскія нашчадкі, якія сёння зарабляюць звыш 10 тысяч злотых у месяц, ездзяць шыкарнымі аўтамабілямі, жывуць у кватэрах, дзе электроніка царствуе ў кухнях і туалетах. Пры камуне жылося ім таксама нядрэнна, але цяпер прымаюць яны стыль жыцця багацеяў з галівудскіх фільмаў.

[туга па мінулым ☞ 4]

## Час цішыні

У час адной з сяброўскіх бясед у Беластоку тры фотапластыкі з розных крін: Яўген Казюля з Мінска, Зыгвард Шміц з-пад Кёльна і Марэк Далецкі з Беластока — вырашылі зрабіць супольную выстаўку сваіх прац — у Беластоку.

[вернісаж ☞ 5]

## Сямятыцкія іконы

З цягам часу традыцыя адзначаць Св. Тройцу як прыхадское свята была спынена, а ў касцёле захавалася да сённяшняга дня. У царкве прыхадскімі святамі сталі святкаванні ў гонар апосталаў Пятра і Паўла і св. Параскевы, якіх іконы пратрымалі ўсе неспакойныя перыяды ў гісторыі Царквы.

[нарыс ☞ 9]

## Ля Ангербурга

У Ангербургу сабралі нас на вялікім пляцы, па якім хадзілі прыгожыя павы — я іх бачыла ўпершыню. Немцы пryязджалі на гэты пляц і падбіралі сабе рабочую сілу. Падышоў да мяне немец і пытаецца, ці я ўмею даіць карову. Я адказала станоўча.

[успамін ☞ 10]

## Мядзьвежая паслуга

Зразумела, што такія з'явы станавіліся прычынай абвінавачанняў войта ў негаспадарнасці. Знайшоўся асобень, які задумаў стаць „абаронцам чалавечых правоў" і паправіць долю інтэрвенцыйных працаўнікоў у гміне.

[шырэй ☞ 11]

# Беларусь — беларусы

## Форум гродзенскіх няўрадавых арганізацый

17 студзеня 1999 г. у Гродне прайшоў II Форум Асамблеі дэмакратычных няўрадавых арганізацый Гродзеншчыны. У ім прыняло ўдзел восемдзесят дэлегатаў ад розных грамадскіх арганізацый вобласці. Палітычныя партыі ў Форуме не ўдзельнічалі, прадстаўнікі некаторых з іх прысутнічалі на сходзе ў якасці гасцей.

У склад Асамблеі ўваходзяць арганізацыі розных накірункаў дзейнасці і розныя па колькасці сяброў. Але ўсе яны карыстаюцца аднолькавымі правамі пры вырашэнні пытанняў, якімі займаецца Асамблея. Так, рух Беларускі народны фронт „Адраджэнне", у якім на Гродзеншчыне аб'яднаны тысячы людзей, мае такі ж голас, як арганізацыя, што налічвае некалькі чалавек. Пра існаванне некаторых з гэтых невялічкіх суполак з гучнымі назвамі многія прысутныя на Форуме даведаліся толькі 17 студзеня. Аднак арганізатары Асамблеі лічаць, што галоўнае — аб'яднаць усе дэмакратычныя сілы.

Удзельнікі сходу прынялі дэкларацыю, у якой гаворыцца, што ў апошнія часы дзейнасць грамадскіх арганізацый абцяжарана непрыязнай палітыкай дзяржавы да няўрадавага сектара, абмяжоўваецца свабода слова і сходаў. У дэкларацыі адзначаецца, што II Форум Асамблеі дэмакратычных няўрадавых арганізацый быў скліканы з мэтай пераадолення такога становішча, сумеснай абароны правоў, узаемнага інфармавання.

На пасяджэнні была абрана Рада Асамблеі, у якую ўвайшло пятнаццаць чалавек: шэсць з Гродна і дзевяць з розных раёнаў вобласці.

Рада будзе займацца арганізацыяй абмену інфармацыяй паміж сябрамі Асамблеі, правядзеннем сходаў, узгадненню пазіцый, абароне правоў арганізацый і г.д.

Дэлегаты прынялі заяву аб інтэграцыйнай палітыцы прэзідэнта, у якой нагадваецца пра сканчэнне тэрміну легітымнага кіравання дзяржавай Аляксандрам Лукашэнкам і яго разбуральніцкую дзейнасць. У дакуменце адзначаецца, што прэзідэнт хоча знішчыць дзяржаву, на вернасць якой кляўся на канстытуцыі. Гэту заяву падпісалі 73 удзельнікі Форуму.

Так сама была прынята заява пра няўдзел дэмакратычных арганізацый Гродзеншчыны ў выбарах мясцовых саветаў, прызначаных прэзідэнцкім парламентам. Ад прыняцця гэтай заявы ўстрымаліся дэлегаты, якія прадстаўлялі аб'яднане маладзёжных арганізацый Рада-23. Яны тлумачылі гэта тым, што іх суполкі не займаюцца палітыкай. Аднак вельмі абурыліся, калі падчас выбараў дэлегатаў на Кангрэс дэмакратычных сіл Беларусі ў Мінск не была падтрымана кандыдатура старшыні Рады-23 Сяргея Салея. Хаця ж усім вядома, што планаваны Кангрэс будзе мець яўна палітычны характар.

Рада-23 налічвае 15 арганізацый, але, як адзначалася на Форуме, у адрозненні ад такіх маладзёжных аб'яднанняў як Малады фронт ці Маладая грамада іх працы не відаць. (На Гродзеншчыне сяброў падобных як Рада-23 арганізацый называюць „Дзеці капітала Гранта" — аўтар.) Дэлегаты Форуму параілі хлопцам не крыўдаваць, а працай паказаць чаго яны варты.

Усяго ад гродзенскіх няўрадавых арганізацый на Кангрэс было абрана 40 дэлегатаў.

**Зміцер Кісель**

## Міхаіл Чыгір думае пра Беларусь

16 студзеня 1999 г. у Мінску прайшоў III з'езд Беларускай асацыяцыі журналістаў. Сябрамі гэтай арганізацыі з'яўляецца 570 журналістаў, якія ў асноўным працуюць у недзяржаўных сродках масавай інфармацыі.

Пра ўплывовасць журналісцкай асацыяцыі можа сведчыць той факт, што ў якасці гасцей з'езда прысутнічалі вядомыя на Беларусі палітыкі і грамадскія дзеячы, у тым ліку намеснік старшыні БНФ Юры Хадыка, старшыня Беларускага Хельсінскага камітэта Таццяна Процька, каардынатар Хартыі-97 Андрэй Саннікаў. Прыйшоў да журналістаў і былы прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Чыгір, хаця адначасова са з'ездам БАЖ адбывалася першае пасяджэнне Цэнтральнай камісіі па выбарах прэзідэнта, якая была створана апазіцыйным Вярхоўным Саветам, а былы кіраўнік урада хоча стаць другім беларускім прэзідэнтам.

Падчас свайго выступу экс-прэм'ер паведаміў, што зараз працуе ў адным нямецкім канцэрне ў Маскве і вельмі часта думае пра Беларусь. Сітуацыя на радзіме яго засмучае.

— Журналісты з'яўляюцца промнем святла ў цёмным царстве, — сказаў Міхаіл Чыгір.

Ён са шкадаваннем ўспамінаў тое, што калісьці Беларусь мела вельмі добрыя стартавыя магчымасці для развіцця эканомікі. Зараз яны страчаны і замест іх беларусам прапануюць аб'яднацца з Расіяй. На сённяшні дзень былы прэм'ер-міністр, які ў свой час падпісваў дамову аб стварэнні Саюза Беларусі і Расіі, выступае супраць гэтага.

У сваю чаргу дэлегаты з'езда гаварылі пра свае праблемы. Іх турбуюць дыскрымінацыйныя дзеянні ўладаў супраць сродкаў масавай інфармацыі, пра эканамічны ціск на недзяржаўную прэсу. На з'ездзе быў прыняты зварот да журналістаў Беларусі, у якім дэлегаты з'езда прыватнасці звяртаюцца з заклікам да калегаў, што працуюць у дзяржаўных СМІ, не адступаць ад прынцыпаў журналісцкай этыкі і заўсёды памятаць запавет: „Калі не можаш гаварыць праўду, дык хаця б не хлусі".

Лідэр Народнага фронту аспрэчыў выказванне некаторых журналістаў наконт таго, што яны з'яўляюцца незалежнымі.

— Нельга быць незалежным ў духоўным і палітычным сэнсе, — сказаў Юрый Хадыка. — Калі выступаеце за прынцыпы, якія адкідае рэжым, а гэта дэмакратыя, свабода слова, значыць, вы — апазіцыя.

Ён заклікаў прысутных аб'яднацца ў барацьбе з дыктатурай і не забываць: „Беларусь, чакае, што кожны выканае рад ёю свой абавязак". **(зк)**

## Палітдэсант у Варшаву

Напрыканцы мінулага году ў польскай сталіцы адбылася сустрэча актывістаў магілёўскай філіі Беларускага Народнага Фронту з Зянонам Пазьняком. Як паведамілі ўдзельнікі спаткання нашай рэдакцыі, старшыня Фронту атрымлівае абсалютна поўную й аб'ектыўную інфармацыю аб падзеях у Беларусі, дакладна ведае стан рэчаў, а таксама адэкватна й своечасова рэагуе на зьмены абставінаў.

Падчас размовы абмяркоўваліся праблемы бягучага палітычнага моманту, а таксама некаторыя складаныя пытаньні стасункаў унутры арганізацыі. Былі пацьверджаныя асноўныя прынцыпы ўзаемадачыненьняў зь іншымі партыямі, стаўленьне да маючых адбыцца ў краіне „выбараў", ды шмат чаго іншага.

Магілёўскія франтаўцы разам з Зянонам Пазьняком выказалі спадзяваньне й пажаданьне, што новы год 2000 мы сустрэнем у Вольнай Беларусі.

*Тыднёвік Магілёўскі № 1 (42), 7 студзеня 1999 г.*

## Сацыял-дэмакраты за незалежнасць

Каля трох тысяч чалавек прыйшлі 17 студзеня 1999 г. на плошчу Якуба Коласа ў Мінску, адгукнуўшыся на заклік Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі „Народная грамада" правесці акцыю пратэсту супраць аб'яднання з Расіяй.

Сфармаваўшыся ў калону людзі прайшлі на плошчу Парыжскай камуны, дзе адбыўся мітынг. Яго ўдзельнікі прынялі рэзалюцыю, у якой дзеянні накіраваныя на далучэнне Беларусі і Расіі былі названы „злачыннымі". **(зк)**

Умовы існавання

# Нас спойваюць ці мы співаемся

**Недзе ў верасні ў адной з газет прамільгнула лічба: за дзевяць месяцаў беларусы прапілі ўжо 19 трыльёнаў рублёў. У сэнсе: выдаткавалі гэтыя грошы на спіртное. Гэта, відаць, адзіная галіна, дзе паказчыкі ў нас растуць высокімі тэмпамі. Гэтым лічбам верыш адразу. Хаця ганарыцца тут няма чым.**

### „Улік" і кантроль

У горадзе Мінску на ўліку стаіць каля 30 тысяч алкаголікаў, па Беларусі — каля 170 тысяч. Паведамляючы гэтыя лічбы, любы нарколаг абавязкова дадасць: ставіцца сур'ёзна да іх не трэба. Па-першае, улік зараз фактычна адменены. Падругое, ставяць на яго толькі тых, хто неаднойчы меў справу з міліцыяй альбо яўна ўяўляе небяспеку для людзей. Астатнія ў статыстыку не трапляюць. Тут прынята кіравацца сусветным вопытам, які сведчыць: у любой дзяржаве ад алкагольнай залежнасці пакутуюць каля 10 працэнтаў насельніцтва. Выходзіць, што ў Беларусі больш 1 мільёна алкаголікаў, скрытых і яўных.

Згодна з той жа статыстыкай, вытворчасць алкаголю на душу насельніцтва дасягнула ўзроўню 1985 года (тады ён быў максімальны). Сёння спіртное можна набыць у самых незвычайных месцах. Нават у аддзеле дзіцячых цацак раённага універмага (сам бачыў). Што тут дзіўнага: 65 працэнтаў беларускіх крамаў гандлюе алкагольнымі напоямі. Вытворчасць гарэлкі ўзрасла на 45 працэнтаў, віна — на 75. Каб было больш прадметна: на кожнага працаздольнага грамадзяніна РБ (выключаючы падлеткаў і састарэлых) летась прыпадала 75 бутэлек гарэлкі і 60 — віна.

Асабліва хутка дэградзіруе беларуская вёска, дзе ўжыванне спіртнога ёсць справа поўнасцю бескантрольная, дзе ролю беларускай грашовай адзінкі зараз выконвае выключна бутэлька беларускай жа самагонкі, а ўрач-нарколаг адзін на ўвесь раён.

У нетрах уладных структур узніклі і цяпер дыскутуюцца два дакументы: „Канцэпцыя дзяржаўнай палітыкі па папярэджанні і пераадоленні алкагалізму насельніцтва РБ" і „Дзяржаўная праграма комплексных мераў па барацьбе з п'янствам і алкагалізмам". Гучыць гэта ўнушальна, але ў асяроддзі спецыялістаў выклікае скептычна-мінорны настрой.

Не, ніхто не спрачаецца, змагацца трэба. Аднак ёсць падазрэнне, што дзяржава пры гэтым вырашае свае праблемы. Скажам, нядаўняе павышэнне цэн на гарэлку — мера разумная. Але фактычна яна прывядзе да таго, што будуць піць розную атруту, як гэта было пасля 1985 года, ды гнаць самагонку. Тым больш, што нават пасля павышэння кошт гарэлкі меншы за долар. Для параўнання: у Швецыі куфаль піва каштуе 6 долараў, кубак кавы — прыкладна 3, столькі ж — пачак цыгарэт. Праўда, там і зарплата не наша.

Хочаш не хочаш, а выснова адна: для дзяржавы, відаць, „хуткія п'яныя грошы" значаць больш, чым тое, што працягласць жыцця мужчыны-беларуса — 58 гадоў.

### „П'янству — бой!"

Рызыкну меркаваць, што сур'ёзна мяняць становішча ніхто не збіраецца. Больш таго, яго ў сённяшніх умовах і нельга змяніць. Можна колькі заўгодна прымаць пастаноў, ствараць праграм і г.д., — урэшце ўсё будзе вырашаць тое, што называецца сацыяльна-эканамічным становішчам насельніцтва. Гэта прычына. Будуць піць (і п'юць) тыя, хто атрымлівае 30 долараў у месяц, а не тыя, хто — 300, што таксама не навіна.

Дзяржаву прываблівае хуткасць атрымання грошай за спіртное. Як гаворыцца, тавар з высокай ступеню ліквіднасці. Гэта дае магчымасць аператыўна латаць дзіравы бюджэт: спраўна плаціць пенсіі і зарплаты, ратаваць сельскую гаспадарку, праводзіць пышныя форумы і г.д.

Рэклама спіртнога знікла на тэлебачанні, але яна квітнее ў друку і на радыё, пераважна камерцыйным. Што піць гарэлку — гэта добра, што піць добрую гарэлку — яшчэ лепш, унушаецца на ўзроўні падсвядомасці. А далей — справа тэхнікі і грашовых магчымасцяў.

За два апошнія гады закрыта 40 падпольных цэхаў па вытворчасці „самапальнай" гарэлкі, рапартуе міліцыя. Гэта, безумоўна, добра. Аднак „смагу" беларусаў наталяюць якраз заводы, якія знаходзяцца пад юрысдыкцыяй дзяржавы. Гэта звычайна не афішуецца. Між іншым, малюецца такая карціна: на заводах вырабляюцца дзесяткі гатункаў гарэлкі ў посудзе рознай ёмістасці — ад 100 грамаў да 1 літра — з яркімі прывабнымі этыкеткамі, не хочаш — купіш. І вып'еш. Унясеш свой сціплы ўклад у бюджэт. Потым з гэтых жа грошай табе выплацяць зарплату, прынясуць пенсію і — можна зноў у краму. Ну а потым дзяржава зацвердзіць праграму па барацьбе з нашым алкагалізмам.

І метады барацьбы, будзьце ўпэўненыя, будуць пераважна карнымі. Таму што ніякіх іншых у нас не ведаюць. Таму што чалавек, які пакутуе ад алкагалізму, у масавай свядомасці з'яўляецца злачынцам. А гэта толькі хворы.

**Сяргей Шаўцоў**

*„Звязда" н-р 244(23595), 17.12.1998 г.*

# Выканаць закон Хрыстовы

**Куцця — непаўторны вечар напярэдадні Раджджаства Хрыстовага. У Орлі сёлета ўпершыню была наладжана куцця для адзінокіх з тэрыторыі гміны. Ва ўрачыстай вячэры ўдзельнічала звыш трыццаці чалавек.**



*На зале панаваў святочны і радасны калядны настрой.*

Гэтае гуманітарнае мерапрыемства адбылося па маёй ініцыятыве. Матэрыяльны бок вячэры забяспечыла Управа гміны, посныя стравы падрыхтавалі кухаркі са школьнай сталовай, а на стол падавалі супрацоўніцы асяродка культуры і бібліятэкі. Спачатку гмінныя ўлады і частка радных да маёй ініцыятывы паставіліся недаверліва. Каб даказаць мэтазгоднасць мерапрыемства, давялося мне саставіць спіс адзінокіх, якія сваім подпісам засведчылі, што прымуць удзел у такой вячэры. Ідэю куцці для адзінокіх прапагандаваў я таксама ў сваёй аднадзёнцы „З-за лавы раднага”.

Сустрэча ў мясцовай школе адбылася 5 студзеня 1999 г. Пачалася яна ў 13 гадзін малітвай і просвірай. У спатканні прынялі ўдзел настаяцель мясцовага прыхода а. Аляксандр Такарэўскі, вікарый а. Анатоль Такаюк, дырэктар школы Яўгенія Васілюк і скарбнік гміны Аляўціна Іваноўская. У прывітальным слове а. Аляксандр Такарэўскі адзначыў, што „светлая Каляда ўсіх нас аб’ядноўвае, каб выканаць закон Хрыстовы: накарміць галоднага, наведаць хворага. (...) У гэтыя святочныя дні трэба задбаць, каб ніхто адзінокі, бедны, хворы не застаўся сам і не плакаў у кутку свайго дома, наракаючы на свой лёс. Бог — міласэрны, а мы, Божыя дзеці, павінны любіць адзін аднаго”. Калядныя пажаданні сабраным перадала таксама дырэктар школы Яўгенія Васілюк.

Урачыстая вячэра не абмежавалася толькі да спажывання страў. Духовай стравай было выступленне калядоўшчыкаў са звяздой. Цудоўны канцэрт калядак падрыхтавалі вучні арлянскай школы пад кіраўніцтвам псаломшчыка Дзмітрыя Мартыновіча. Незвычайную гвязду, якую састаўлялі шэсць рознай велічыні паасобных гвяздаў, зрабіў сямікласнік Віця Каляда з Кашалёў. Вялікую памерамі гвязду давялося прывезці ў школу на машыне.

На зале панаваў святочны і радасны калядны настрой ды ўзаемная сардэчнасць, а сабраныя адчувалі сябе як адна вялікая сям’я. Мне таксама было прыемна, што мая ініцыятыва ўсё-такі ажыццявілася, тым больш што словы падзякі ў мой адрас прагучэлі з вуснаў удзельнікаў куцці і скарбніка гміны Аляўціны Іваноўскай. Мерапрыемства запісала Беластоцкае тэлебачанне, а інфармацыя пра гэта паявілася ў тэлеэфіры двойчы — у навінах і беларускай перадачы „Самі пра сябе”.

На жаль, у куцці для адзінокіх удзельнічалі толькі жыхары Орлі, Міклашоў, Крывятыч, Шчытоў і Спічак. Ахвотных удзельнічаць у такім спатканні было больш, але Гмінная ўправа не паклапацілася пра транспарт для пажылых людзей з аддаленых ад гміннага цэнтра вёсак. Затое радны Сцяпан Цімафяюк са Шчытоў удзельнікаў урачыстасці прывёз на сваёй машыне. Аднак гэта было выключэнне і шкада, што па яго слядах не пайшлі ні старшыня рады, ні астатнія радныя, ні гмінныя чыноўнікі.

**Міхал Мінцэвіч**
*Фота аўтара*



*Айцец Аляксандр Такарэўскі адзначыў, што светлая Каляда ўсіх нас аб’ядноўвае, каб выканаць закон Хрыстовы.*

# Калядныя сустрэчы



*Каляднікі з бельскага гурту „Дівэрык”.*

16 і 17 студзеня 1999 года ў Гайнаўскім доме культуры адбыліся XIX калядныя сустрэчы „Гайнаўка ’99”, у час якіх з праваслаўнымі і каталіцкімі калядкамі, а таксама з абрадамі звязанымі з Нараджэннем Хрыста, выступіла каля сарака калектываў з розных вёсак і мясцовасцяў былога Беластоцкага ваяводства.

— Можна сказаць, што гэта ўжо дваццатыя калядныя спатканні, а трэція ў Гайнаўцы, бо першыя наладзілі мы ў Гайнаўцы, калі не было афіцыйнага дазволу на калядаванне, у пачатку сямідзесятых гадоў, — кажа дырэктар ГДК і суарганізатар мерапрыемства Мікола Бушко. — Спатыкаюцца праваслаўныя і каталікі, бо ўсе ж славяць аднаго Бога і жывуць па-суседску.

Найбольш каляднікоў прыехала з Гайнаўшчыны і Бельшчыны. Многія спявалі тыя калядкі, з якімі калядуюць падчас святаў, але некаторыя выступалі са старымі песнямі, якімі ўжо цяпер і не карыстаюцца. З найстарэйшай калядкай з XVI стагоддзя „Прэвечный родіся под леты” паказалася група каляднікоў з Бельска-Падляшскага „Дівэрык”, якая захапіла ёю не толькі знаўцаў мясцовага фальклору, але і ўсю публіку. Заспявалі яны яшчэ дзве іншыя песні, запісаную ў Зубаве „Ой пад вішняю, пад чэрэшняю”, якую даўней спявалі для маладой пары і „Там на прызбонці”, запісаную ад Веры Панасюк з Плёсак, якую раней спявалі для нованароджанага дзіцяці і яго бацькоў.

— Калядку з XVI стагоддзя знайшлі мы ў старым Багагласніку і адразу вырашылі выкарыстаць, а іншыя, якія выконвалі, мабыць, з XIX стагоддзя. Песні, якія спяваем запісваем падчас рэйдаў, летнікаў ці падарожжаў па навакольных вёсках, — кажа Дарафей Фіёнік, які спяваў разам з жонкай Альжбетай, Алегам Кабзаром і пяццю іншымі каляднікамі з Бельска. — З назвай „Дівэрык” (мужаў брат) афіцыйна выступаем першы раз, а ўзялі яго ад загалоўка песні, якую запісалі ў Тыневічах ад бацькоў Міколы Ваўранюка.

У гэтым годзе ў час калядных спатканняў выступіла больш моладзі, якая рыхтавалася ў сваіх школах, парафіях і гмінных асяродках культуры. Праваслаўныя калядкі прыгожа спявалі вучні з Кленік, Ласінкі і група „Ранок” з Бельска-Падляшскага, а апрача калядавання былі і займальныя тэатральныя выступленні маладзёжнага калектыву песні і народнага танца, што дзейнічае ў ГДК і тэатральнага гуртка „Антракт” з Бельска, якога ўдзельнікі выступалі выключна па-беларуску. Цікава паказвалі яны розныя здарэнні з сялянскага жыцця і спявалі мясцовыя калядкі.

Сярод старэйшых праваслаўных каляднікоў найбольш было тых калектываў, якія выступаюць на аглядах „Беларуская песня”. Намагаліся яны паказаць просты вясковы спеў, без стылізацыі і апрацавання, таму што найвышэй ацэньвалася аўтэнтычнасць калядак, прыгажосць рэквізітаў, багацце прымавак і пажаданняў, ну, і вядома, трэба было звяртаць увагу на чысціню і меладычнасць спеву.

— Паколькі гэта толькі сустрэчы, а не конкурс, не ацэньваем калектываў і не прысвойваем канкрэтных месцаў, а раім ім на што яшчэ трэба звяртаць увагу і што трэба выпраміць, — гаворыць Сцяпан Копа з Ваяводскага асяродка анімацыі культуры, які быў суарганізатарам спатканняў.

Каляднікі прыехалі ў ГДК не толькі праславіць Нованароджанага Хрыста, але і пахваліцца прыгожымі гвяздамі і батлейкамі. Гайнаўскай публіцы найбольш спадабалася шмат’ярусная гвязда з якой выступалі арляне. Састаўляла яе шэсць рознай велічыні гвяздаў, спалучаных з сабой, якія круціліся падчас калядавання (здымак у „Ніве” н-р 2, ад 10 студзеня 1999 г.).

— З гэтай гвяздай выступала наша моладзь у Орлі, калядавала ў Кашалях, адкуль Пятрусь Гаворка, які яе выканаў, — кажа Аліна Петручук, кіраўнік Гміннага асяродка культуры ў Орлі.

Хаця часта выконваліся вядомыя мясцовыя калядкі, паяўляліся і старадаўнія песні і прыпеўкі, якія добра было б далучыць да аўтэнтычнага фальклору сабранага падчас папярэдніх аглядаў, што і было б падсумаваннем калядных сустрэч.

**Аляксей Мароз**
*Фота Яўгена Алексеюка*

# Пры камуне жылося...

Перыяд калядных свят спрыяе ўсялякім сямейным і сяброўскім сустрэчам. Пасля мнагадзённых застольных размоваў са сваякамі і знаёмымі я мог толькі пераканацца ў тым, як моцна праваслаўны люд сумуе па камуне, але так і не даведаўся прычын тае тугі па мінуўшчыне.

Можна зразумець сялян, у якіх цяпер узніклі вялікія цяжкасці з продажам прадуктаў. Памятаюць яны, што пры камуне бралі ад іх усё, што вырасла на полі, ці ў хляве і заклікалі даваць больш. Плацілі таксама нядрэнна. З Заблудава ў Беласток — успамінаюць — можна было праехаць аўтобусам за пару яек. Сёння такі праезд абыходзіцца двума кілаграмамі яек. Нехта гаворыць: трымалі мы заўсёды дзесяць кароў, дваццаць свіней, шмат прадавалі мяса, малака, бульбы, жыта, быў прыбытак, штучнае ўгнаенне было таннае, салярка для трактара ў два разы была таннейшая ад малака. А цяпер!?

Гэтыя пералікі выглядаюць вельмі пераканаўча, не даюць толькі адказу на пытанне, чаму пры такой вялікай прадукцыі тады ў прадуктовых крамах нельга было нічога купіць без чэргаў і талонаў. Чаму ва ўмовах свабоднага рынку вёска вярнулася да стану, які быў пры санацыі, а сяляне ў новай сітуацыі сталі найбольш бездапаможнай грамадскай групай. Страх падумаць як выглядала б сёння вёска, калі б пажылыя людзі не мелі пенсіяў з дзяржаўнага бюджэту.

Сентыментальна ўспамінаюць камунізм таксама сялянскія нашчадкі, якія сёння зарабляюць звыш 10 тысяч злотых у месяц, ездзяць шыкарнымі аўтамабілямі, жывуць у кватэрах, дзе электроніка царствуе ў кухнях і туалетах. Пры камуне жылося ім таксама нядрэнна, але цяпер прымаюць яны стыль жыцця багацеяў з галівудскіх фільмаў.

Найбольш цёпла пра эпоху Герка і Ярузэльскага гавораць настаўнікі. Чамусьці запамяталі яны таксама, што за сваю працу атрымлівалі высокую плату, што неяк больш прылюднай была школа без катэхетаў, моладзь больш паважала настаўнікаў, не было наркаманаў і ўсялякіх іншых паталогій. Прыгожы ўспамін пра камуністычную школу стварае перш за ўсё няпэўнасць заўтрашняга дня для большасці настаўнікаў. Рэальная плата супрацоўнікаў асветы праўдападобна не ёсць меншай чым пры камуне. У васьмідзесятых гадах, працуючы ў школе, я мог купіць „Фіата 126" за 70 сваіх месячных зарплат, польскі каляровы тэлевізар — за 8, а карову — за 5. Сёння сваячка з падобным стажам працы патрабавала б выдаткаваць на гэтыя тавары 5 разоў менш. Іншая справа, што за камунальныя паслугі трэба сёння выдаткаваць амаль палову настаўніцкай платы, а раней было гэта сімвалічныя сумы.

Сентыментальныя ўспаміны эпохі камунізму праваслаўным людам — як мне здаецца — не маюць эканамічных каранёў, а хутчэй за ўсё цывілізацыйныя. Камунізм стварыў праваслаўным умовы для добрага самаадчування. Папершае — ігнаруючы рэлігійны фактар, даў усім некатолікам такія самыя шанцы пабудовы польскага сацыялістычнага грамадства як католікам. Праваслаўных камуністы лічылі зусім не горшымі палякамі чым католікаў. Пасля 1989 г. ажыццявіўся лозунг „паляк-католік". Праваслаўныя апынуліся тады як бы нанава побач польскага грамадства. Па-другое — камунізм на Беласточчыну прыйшоў з усходу, у свядомасці грамадства існаваў як частка рускага, і як бы „свайго", свету. Савецкі Саюз быў краінай, якой шчыра ганарылася пераважаючая большасць праваслаўных Беласточчыны, таксама тых, якія адчувалі сябе палякамі. На другім баку барыкады быў каталіцкі універсалізм. Па-трэцяе — камунізм вельмі добра заступаў нацыянальную ідэалогію. Пасля яго падзення гэтую інтэграцыйную функцыю пачало выконваць праваслаўе. Беларускасць у параўнанні да камунізму была, а ў параўнанні да праваслаўя ёсць, катэгорыяй другараднай. Відаць гэта падчас кожных чарговых парламенцкіх выбараў, калі наш люд вымушаны быў вырашыць — ці аддаць голас на кандыдата ад посткамуністаў, ці праваслаўных, ці беларусаў. Пераважаючая большасць галасавала на гэтых першых, а толькі каля 10 працэнтаў электарату давала падтрымку беларусам. Цалкавітую еднасць і палітычнае аднадумства выбаршчыкаў стварыла кааліцыя праваслаўных і посткамуністаў падчас муніцыпальных выбараў у Беластоку.

Беларускасць нашым людам ніколі не ўспрымалася ў такіх універсальных катэгорыях як, напрыклад, польская нацыянальная ідэя палякамі. Раней успрымалася яна як адзін з элементаў камуністычнага парадку, сёння — як праваслаўнай супольнасці.

Адзін прафесар Беластоцкага універсітэта, родам з Бельшчыны, нядаўна ў вострай форме звярнуў мне ўвагу, што маё ўспрыманне беларускасці як незалежнай нацыянальнай ідэі — гэта здрада праваслаўю і рускаму народу. Недзе ў Еўропе падазравалі б у яго шызафрэнічную хваробу. У нас гэта толькі экспрэсіўнае выяўленне самай сутнасці грамадскай думкі. „Нашы людз, — як гаворыць адзін з вядомых палітыкаў, — усё добрэ понімают".

**Яўген Міранович**

# Конкурс на найпрыгажэйшую гвязду



*Уладзімір Петручук са сваёй гвяздай.*

Каля сабора Святой Тройцы ў Гайнаўцы 8 студзеня адбыўся II Рэгіянальны конкурс гвяздаў „Гайнаўка '99", арганізаваны праваслаўным выдавецтвам „Братчык" і Брацтвам праваслаўнай моладзі.

Галасаваць на найпрыгажэйшую гвязду маглі ўсе вернікі, якія выходзілі з сабора пасля літургіі. 160 асоб выбрала тры найцікавейшыя гвязды. Вырашылі яны, што сярод 16 гвяздаў, самая займальная тая, якую выканалі Міхал і Грыгорый Байко, на другім месцы апынулася гвязда Уладзіміра Петручука, а на трэцім — Каміла Лаўрыновіч, усіх з Гайнаўкі. На конкурс прыехалі таксама бельшчанін Дарафей Фіёнік і Якуб Багацэвіч з Кашалёў. Усе пераможцы атрымалі ад выдавецтва „Братчык" віншавальныя дыпломы і спецыяльныя ўзнагароды, а іншыя ўдзельнікі апрача дыпломаў — ласункі.

Спецыяльную ўзнагароду за развіццё праваслаўнай культуры атрымаў **Якуб Багацэвіч**, які выканаў шмат гвяздаў, а і на конкурсе было пяць твораў ягоных рук. Узнагароду ўручаў дырэктар Фонду развіцця праваслаўнай культуры ў Варшаве Васіль Піўнік, які сказаў:

— Задаволены мы з конкурсу гвяздаў, які ўзнавілі пасля чатырохгадовага перапынку. Жывое зацікаўленне публікі, актыўны ўдзел у ацэнцы і прысутнасць тэлебачання даюць надзею, што ў наступных гадах колькасць удзельнікаў павялічыцца.

— Гвязду выконвалі мы з бацькам, але дапамагалі і іншыя асобы, а аклейвалі ў Кашалях, — кажа пераможца конкурсу Гжэсь Байко, якога двухрадавая гвязда дзякуючы спецыяльнаму механізму сама круцілася ў два бакі. — Ужо ў гэтым годзе разам з сябрамі калядавалі з ёю ў Гайнаўцы.

— Гэтая гвязда невялікая, але розныя я выконваю. Заказваюць у мяне і жыхары Гайнаўкі, і навакольных вёсак, а зрабіў я ўжо больш за сто штук, — гаворыць Уладзімір Петручук. — Справа не ў велічыні гвязды, але ў прыгажосці. Самая складаная праблема, гэта зрабіць „лічка" з выкарыстаннем шкла.

— Са сваёй гвяздай калядую я ўжо другі год, а выконвала яе разам з усёй сям'ёю, — інфармуе Каміла Лаўрыновіч, вучаніца падставовай школы.

— Я ўжо добра і не ведаю колькі зрабіў гвяздаў, але напэўна больш чым дзвесце, — кажа Якуб Багацэвіч з Кашалёў і паказвае мне конкурсныя, сваёй работы, якія крыху падобныя да сябе. — Каб не ехаць з пустымі рукамі, узяў невялічкую, якую зрабіў сваёй унучцы, бо вялікую цяжка было б прывезці ў аўтобусе.

**Аляксей Мароз**

*Фота аўтара*

# Дзяржава клапоціцца пра светліцовых

„...ze strony tytułowej należy wykreślić podtytuł «Białoruski tygodnik», uczynić pismo «trybuną popularyzacji folkloru», «pokazywać dobre współżycie ludności polskiej i białoruskiej», przybliżać czytelnikowi sylwetki sekretarzy podstawowych organizacji partyjnych, działaczy BTSK, wybijających się nauczycieli i świetlicowych".

Да такіх высноў у 1967 годзе прыйшла Камісія па нацыянальных пытаннях Ваяводскага камітэта ПАРП, ацэньваючы „Ніву". Два гады пазней, на VI З'ездзе БГКТ, сакратар Ваяводскага камітэта партыі Вітальд Мікульскі гаварыў: „Głównym zadaniem BTSK jest łączenie tego regionu w jeden organizm państwowy, w trakcie ogólnego procesu, który swoim zasięgiem obejmie cały naród polski (...). Cenimy Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne za popularyzację folkloru. Wasze Towarzystwo na tym polu ma wiele sukcesów".

Яўген Міранович, за якім прыводжу гэтыя цытаты, падсумоўвае іх: „Падмурак будучай канструкцыі «маральна-палітычнага адзінства польскага народа» на беластоцкім грунце быў пакладзены ўжо ў канцы шасцідзесятых". Мае ён на думцы абавязваючую ў сямідзесятых гадах палітыку польскай дзяржавы ў адносінах да нацыянальных меншасцей, рэлікт якой можам наглядаць у сённяшнім самападманлівым крэда БГКТ: „ніякай палітыкі, адзін фальклор".

Палітыка дзяржавы да меншасцяў у пасляваеннай Польшчы мянялася. Раз былі яны ворагамі, іншым разам узбагачвалі агульнанацыянальную культуру. Прытым увесь час былі нейкай сарамлівай з'явай, якую лепш было абыходзіць бокам, не заўважаць, замоўчваць. Таму па сёння так мала салідных манаграфій пра меншасці і таму ўсё жывыя стэрэатыпы і міфы.

У Беластоку ў польскім асяроддзі напэўна пачуеце пра сланыя беларусамі ў Маскву і Мінск петыцыі аб далучэнні ўсходняй Беласточчыны да Беларусі. Беларусы аддзячваюцца вобразам палякаў, якія толькі чакаюць зручнага моманту, каб раз на заўсёды развязаць „кацапскую праблему" (славутыя крыжы на дзвярах праваслаўных за першай „Салідарнасці"). Міфы і стэрэатыпы асабліва ажываюць у час палітычных пераломаў.

Такім момантам у навейшай гісторыі Польшчы прысвячаецца кніга „Нацыянальныя меншасці ў Польшчы", выдадзеная Інстытутам палітычных доследаў Польскай акадэміі навук, пад рэдакцыяй Пятра Мадайчыка*.

Раздзел пра беларусаў напісаў у ёй Яўген Міранович. Не цураецца ён успомненых міфаў. Аднак галоўная мэта аўтара: даць салідную інфармацыю пра меншасную палітыку польскай адміністрацыі, арганізацыйныя формы беларускага жыцця на Беласточчыне, школьніцтва, культурна-мастацкі рух ды апісаць менталітэт і найбольш тыповыя паводзіны беларусаў у пасляваеннай рэчаіснасці. Аказваецца, ва ўсе часы праслед спрыяў росту нацыянальнай свядомасці. Ужо ў 1956 годзе звольненыя з працы людзі станавіліся свядомымі беларусамі, хаця раней праўду аб сваіх беларускіх каранях хавалі нават ад саміх сябе.

Гэтая кніга — вынік двухгадовай працы над праектам: „Польская дзяржава і грамадства ў адносінах да нацыянальных меншасцей падчас палітычных пераломаў (1944-1989)". Стан доследаў, як і рамкі праекта не дазволілі на падрабязнае апісанне ўсіх нацыянальных груп у Польшчы. Апрача беларусаў у кніжцы апынуліся немцы, украінцы, яўрэі і цыганы. Першыя тры меншасці — найвялікшыя, а дзве астатнія выклікаюць найбольш страсцяў у грамадстве. Аўтары паасобных нарысаў засяроджваюцца, згодна з праектам, на пераломных момантах нашай найнавейшай гісторыі, але ўпісваюць падзеі ў шырэйшы кантэкст. Хоць кожная з апісаных нацыянальнасцей мае свой асобны гістарычны досвед і па-свойму глядзіць на розныя перыяды апошняга паўстагоддзя, а аўтары паасобных нарысаў маюць свой індывідуальны гістарычны і пісьменніцкі варштат, кніга ў цэлым атрымалася кампактная і салідная. Не можа праігнараваць яе ніхто, хто цікавіцца нацыянальнымі меншасцямі ў Польшчы. Для гісторыкаў будзе яна зыходным пунктам для далейшых доследаў.

**Мікола Ваўранюк**

**Mniejszości narodowe w Polsce. Państwo i społeczeństwo polskie a mniejszości narodowe w okresach przełomów politycznych (1944-1989). Pod redakcją Piotra Madajczyka.* Warszawa 1998.

# Ліцэісты на раённых элімінацыях



*Люцына Данілюк з Бельска рыхтуецца да адказу.*

14 і 15 студзеня 1999 года ў гайнаўскім і бельскім белліцэях праходзілі раённыя элімінацыі V Алімпіяды беларускай мовы.

Паколькі да раённага этапу перайшло 29 вучняў з Бельска і 18 з Гайнаўкі, камісія вырашыла, што веды ліцэістаў правярацца будуць два дні. 14 студзеня вучні пісалі пісьмовыя працы ў сваіх ліцэях, якія адразу правяраліся членамі камісіі. У Гайнаўцы за ходам змаганняў назіралі выкладчыца Варшаўскага універсітэта Тамара Філіпчынская і настаўніца беларускай мовы Валянціна Бабулевіч, а ў Бельску — кіраўнік кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта прафесар Аляксандр Баршчэўскі і былы настаўнік беларускай мовы Васіль Сакоўскі.

У пісьмовых працах былі да выбару дзве тэмы: „Янка Купала, вядучы нацыянальны беларускі пісьменнік-нашанівец" і „Мой ліцэй — мой другі дом". Кожны ўдзельнік мусіў таксама перакласці тэкст з беларускай на польскую мову і ў апошнім практыкаванні замест лічбаў уставіць у тэкст слоўныя акрэсленні прыведзеных датаў.

— Цікава, што маючы да выбару для пісьмовых прац дзве тэмы, многія пісалі пра свой ліцэй, як другі дом, пра сваіх сяброў, атмасферу ў школе, падкрэсліваючы сваю беларускасць. Калі гаварыць пра ўзровень прац, дык быў добры, — сказаў старшыня камісіі, прафесар Аляксандр Баршчэўскі. — Фінал Алімпіяды плануем у гэтым годзе зрабіць у раёне возера Свіцязь, разумеецца, калі не будзе непрадбачаных складанасцей у Беларусі.

— Калі гаварыць пра дадатковыя практыкаванні, дык пераклад выйшаў найлепей, а калі і былі нейкія агрэхі, дык невялікія. Некаторыя памылкі паяўляліся пры напісанні лічэбнікаў у адпаведнай форме, — звяртаў увагу настаўнік Васіль Сакоўскі. — У Бельску больш вучняў пісала пра свой ліцэй, а ў Гайнаўцы — пра Янку Купалу.

Вусна ўсе ўдзельнікі адказвалі ўжо 15 студзеня ў Гайнаўскім белліцэі. Кожны ліцэіст выцягваў білет і адказваў на адно пытанне, якое найчасцей тычылася або беларускай літаратуры ад перыяду Кіеўскай Русі да сучаснасці, або падзей з жыцця беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы.

— У пісьмовай працы пісала я пра наш ліцэй, пра атмасферу, пра суадносіны з настаўнікамі. Калі яшчэ дома рыхтавалася да вусных адказаў, дык задумвалася над гэтай тэмай. У час вуснага адказу расказвала пра студзеньскае паўстанне і дзейнасць Кастуся Каліноўскага, што памятала яшчэ з урокаў гісторыі і беларускай мовы, — кажа Аня Найбук з гайнаўскага белліцэя, якая сабрала найбольш балаў і апынулася на першым месцы. — Калі падчас адказу бачыла, што зрабіла моўную памылку, адразу выпраўляла яе, каб камісія не адымала балаў. У некаторых выпадках не хапала расказаць толькі пра тое, што было на ўроках, бо члены камісіі ставілі дадатковыя пытанні.

— У час вуснага адказу гаварыла я пра ўплыў шматмоўнасці, шматкультурнасці і шматрэлігійнасці на духоўнае развіццё чалавека, дык карысталася я прыкладам са свайго наваколля, — успамінае Люцына Данілюк з Бельска.

Найбольш, бо 95 балаў і першае месца атрымала Анна Найбук з гайнаўскага белліцэя. На другім і трэцім месцы апынуліся дзяўчаты з бельскага белліцэя Ева Аўсяйчук (94 балы) і Анна Фіёнік (92 балы). Да цэнтральнага этапу перайшло дзесяць ліцэістаў з Бельска-Падляшскага і шэсць з Гайнаўкі.

— Я думаю, што трэба было б пахваліць настаўнікаў абодвух ліцэяў, якія рыхтуючы вучняў выканалі нялёгкую работу, але найбольшай пахвалы заслужылі ліцэісты, удзельнікі Алімпіяды, якія многа мусілі папрацаваць, каб дабіцца поспеху. Дай ім Божа здароўе і знайсці сваё годнае месца ў жыцці, — падвёў вынікі змаганняў член камісіі настаўнік Васіль Сакоўскі.

**Аляксей Мароз**
*Фота аўтара*



*Камісія V Алімпіяды: (злева) Валянціна Бабулевіч, Аляксандр Баршчэўскі і Васіль Сакоўскі.*

# Час цішыні



*Справа налева: Яўген Казюля, Зыгвард Шніц і Марэк Далецкі.* Фота Паўла СУПЕРНАКА

У час адной з сяброўскіх бясед у Беластоку тры фотамастакі з розных краін: Яўген Казюля з Мінска, Зыгвард Шміц з-пад Кёльна і Марэк Далецкі з Беластока — вырашылі зрабіць супольную выстаўку сваіх прац — у Беластоку.

Усе яны былі знаёмыя здаўна. Яўген Казюля з Беларускага тэлеграфнага агенцтва (БелТА) супрацоўнічаў з „Нівай" з даўных-даўна, а адзінаццаць гадоў працягвалася яго супрацоўніцтва з „Кур'ерам Падляшскім", рэпарцёрам якога быў Марэк Далецкі. Што датычыць немца Зыгварда Шміца, дык ён быў у другой палове васьмідзесятых гадоў удзельнікам фатаграфічнага пленэра ў Польшчы, і ад таго пачалося іх знаёмства.

Мастакі вырашылі, што з трох пазіцый будуць рабіць здымкі на адну і тую ж тэму: вёска і чалавек, вясковыя краявіды. Цікава ім было, як гэта ўсё выйдзе.

Я стараюся здымаць тое, чаго заўтра ўжо не змагу зняць, сказаў мне на адкрыцці выстаўкі „Час цішыні" Яўген Казюля. І сапраўды, на яго здымках мы бачым беларускую вёску такой, якая яна ёсць, без прыкрас. Вось простая, па-вясковаму апранутая жанчына іграе на барабане ў час свята вёскі, а тут апошні аўтэнтычны 78-гадовы гусляр са сваімі гуслямі з Маладзечанскага раёна, нестылізаванае Купалле, якое наладзіла моладзь, ганчар з Міра, які робіць гліняныя збанкі, веснавы разліў на Палессі, сярод дрэў стаіць хата, якой ужо сёння няма, засталіся па ёй толькі дрэвы, а вось сонечная, „неапранутая" раніца ў вёсцы, — такія моманты, важныя і менш важныя, адлюстраваны на здымках Яўгена Казюлі.

Што датычыць здымкаў Марка Далецкага і Зыгварда Шміца, дык яны былі зроблены на польскім матэрыяле. І трэба прызнаць, што хаця яны не паходзяць з Беларусі, дык у многім напамінаюць мастацкія працы Яўгена Казюлі. Той жа пейзаж, тыя самыя спрацаваныя сяляне. Мо хаты на гэтых здымках больш сучасныя, мо больш задаволены малады гаспадар, што стаіць каля ўласнага трактара. Старасць, аднак жа, так уласцівая сённяшняй вёсцы, яна і тут і там аднолькавая.

Цешыць факт, што супрацоўніцтва польскіх і беларускіх фотамастакоў працягваецца, нягледзячы на ўсе няспрыяльныя фактары. Ужо чатыры выстаўкі ў Гродне наладзіў беластоцкі фотамастак Генрык Рагазінскі, у даны момант адбываецца там выстаўка Віктара Волкава.

Выстаўка, наладжаная ў Беластоку (Яўген Казюля кажа, што арганізаваў яе Марэк Далецкі, а той клянецца, што гэта была ідэя Казюлі), дазваляе глянуць на справу вачыма трох фотамастакоў з розных культур і прыйсці да вываду, што жыццё са сваім праміннанем, яно ўсюды ёсць жыццё.

Выстаўка будзе дэманстравацца ў беластоцкай ратушы прынамсі месяц (адкрыта была 15 студзеня). Хто не бачыў яе, яшчэ паспее паглядзець.

Зацікаўленне ёю было велізарнае. З гродзенскага тэлебачання спецыяльна прыехаў Аляксандр Ласмінскі (ён старшыня гродзенскага фотаклуба „Гродна"). Гэта ён арганізаваў у кастрычніку мінулага года фотапленэр пра Аўгустаўскі канал (па тым баку).

**Ада Чачуга**

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Паэты года

# Маленькія жанчыны вераць сваім вачам


Урок беларускай мовы ў VI „а", што ў бельскай „тройцы". Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Колькі слоў пра словы Ірэны, Жанэты, Агнешкі, Мажэны — вашых сябровак, якія *шукаюць мову родную, беларускую, вераць, што жыве яна ў сэрцы кожнага сапраўднага беларуса, як маладосць, надзея і ўсмешка* (Ірэна Кулік, у калектыўным зборніку *Зноў чуеш словы*, 1998). Ірэна, як і іншыя маладыя паэты і ўвогуле людзі — у пошуках сваёй дарогі і сэнсу быцця: *Жыву... Мару... Дзякую... Веру...* Жанэта Роля (калектыўны зборнік *Плыву морам майго жыцця*, 1997) дэкларуецца: *Кожнага, што ў жыцці спаткаем, добрым словам абдорваць*. Вядома, як заўважае яна ў зборніку *Зноў чуеш словы*: *Колькі нас, столькі магчымасцяў*. Паколькі Ірэна Кулік (сур'ёзны дэбют на „дарослай" літаратурнай старонцы „Нівы" ў студзені 1999 г.) праз мройныя прадчуванні смаку і небяспекі жыцця выходзіць вока ў вока насупраць таго свету, хтосьці сказаў бы: штосьці тут не па-дзіцячаму (усё ж) кідаецца яна ў роспач немагчымасці, лабірынту, нейкага тупіку: *Хачу плакаць — яшчэ надзея, хачу ўцякаць — яшчэ вера, хачу кахаць — ужо не магу*! Але ўсё ж яна *глядзіць на сонца вокам дзіцяці*, ды вось *падае марна ў бездань жыцця*. Але хто сказаў, што малады чалавек не мае такіх пачуццяў, хоць бы і Вертэр? Гэта ж не хваравлівае, гэта стан душы, далікатнай матэрыі. Ірэна цікава знаходзіць сябе ў кароткай форме, умела пазбываючыся шматслоўя, якое яна пакінула ў сваёй публіцыстыцы, нядрэннай, дарэчы. Пра Жанэту Ролю наадварот — больш можам сказаць пра яе як выдатную фельетаністку, поўную аўтаіроніі, спраўна валодаючую словам і вобразам. Проста, менш ведаем яе вершы, хаця трапіўся ў яе твор, які застаецца не толькі друкаваным запісам настрою душы, але і ў памяці і ў думцы чытача:

*Вочы — люстра душы.*
*Каханне — гарачае, сляпое.*
*Люстра адбіла праменне.*
*Мы сталі сляпымі.*

Мы бачым іх, што *стаяць чыстыя і нявінныя, як крапля расы* (Мажэна Жменька), таму такія лёгкаранімыя іхныя душы, і даравалі можам ім тую дэкларатыўнасць (яе, дарэчы, не пазбываецца большасць „дарослых" паэтаў), і тыя, здавалася б каму, „найграныя" пачуцці таго адчаю, суму, быццам пажылы, бывалы чалавек, стомлены жыццём, неабавязкова паэт, абдумаўшы сваё былое, сцвярджаў: *Мінулае плыве як рака, праз душу чалавека трапляе ў вір забыцця. Я асуджаны на самотнасць, высмоктваю апошнія кроплі жыцця* (Мажэна). Але ж яна, паэтка, стаіць яшчэ *на ўзбярэжжы дарог жыцця*, адзінокая. Пачуццё самоты і важнасці ўнутранага індывідуальнага перажывання ёсць імпульсам сказаць праўду, бо *маўчаць нельга* (Агнешка Галімская). Але ж *праўда ў кожнага іншая*! Агнешка Галімская, якая доўгі час скрывалася пад крыптанімам, а і цяпер рэдка паказвае свае творы (ведаем, што піша, працуе) у адным сваім кароткім вершы, які таксама заквітае і ў душы, улавіла істоту таго, пра што мы стараемся шматслоўна выказаць: пра сутнасць жанчыны, паэткі; „маленькай жанчыны", сябе:

*Пасля яна прыйшла,*
*зламіла адказ,*
*павольна знайшла значэнне,*
*наведала музей думак,*
*адлюстравала пачуцці*
*ўпэўнена,*
*што інакш цяпер глядзіць.*

Перачытваючы творы нашых маладых паэтак я вяртаюся да вершаў Агнешкі, асабліва да *Меркавання*. Што гэта такое: *уяўлялася... падобнае да веры, што ўвайшло ў сэрца светлым незабыўным вобразам*? *Верачы сваім вачам паставіла магілу...* Гэты верш Агнешка падпісала крыптанімам. І на мяне, як на чалавека, які ставіць, запісваючы часам незапісальнае, усё ж — магілы на словах, наводзіць ён сум і трывогу. Як уяўленне, тое няўлоўнае пачуццё назабыўнага характа хвіліны і істоты рэчаў, запісаць атраментавым словам? Чаму? Ці толькі ставім слядок для сваёй памяці, ці гэта з думкай пра таго, у чыёй душы ён заквітнее барвовым полымем, якое ўспыхнула і ў маёй душы, у нашым уяўленні?.. *Здзіўленая азірнулася... Пазнала самадзейнасць... Вельмі разгубілася...* **Мусіў жыць!** — завяршае Агнешка свой верш *нарадзіўся тады, калі нарадзілася раніца*. — *„Выйшла ніяк"*? Гэта пра таго, што *хацеў сказаць, марыць, аздобіць кожную хвіліну...* Не атрымалася? Гэта ж не пра вас, „маленькія" паэткі!

**Міра Лукша**

## Зімовая загадка

У якой пярыне
зайчык не прастыне?
Ля якой падушкі
ён пагрэе вушкі?

**Данута Бічэль-Загнетава**

## Пісьмо на снезе

На снезе дзіўныя слядкі,
Як быццам літары, значкі.
Дзядулю клічу я на двор:
— Глядзі, які на снезе ўзор!
— Пісьмо тут, — гаворыць дзед. —
Я прачытаў яго як след.
Табе, Міколка, пішуць птушкі,
Каб ты зрабіў для іх кармушкі.

**Ніна Галіноўская**

## „Упадак"

Белы зімовы дзень настаў.
Цэлы свет белы снег заслаў.
Адзін настаўнік нашай школы бег
І „бух!" з размаху галавой у снег!
Дзіця дакучыць яму захацела,
Дык і яму зрабілася „бела".
Не будзем больш пра гэта
плявткаваць:
Цяпер яны разам у снезе ляжаць.

**Міраслава Дулько, І „б" клас**

# Пульс першабытнай пушчы

Я вельмі цікаўлюся прыродай. Мая бабуля, якая доўгі час працавала ў Белавежы і дакладна развучыла яе наваколле, часта расказвала мне пра Белавежскую пушчу. Бабулю сваю я слухала з вялікім зацікаўленнем. Я вельмі хацела б пашырыць свае веды аб першабытным лесе. Між іншым, я купляла цудоўныя кніжкі і глядзела фільмы.

У маёй памяці надоўга застанецца праграма пад загалоўкам „Пульс першабытнай пушчы". Яна зрабіла на мяне вялікае ўражанне. Таму я не магла дачакацца сустрэчы з яе стваральнікамі, якая адбылася ў маёй школе.

Пан Андрэй Кэчыньскі і пані Эва Кэчыньская-Мароз, якія вельмі моцна звязаны з Белавежскай пушчай, паказалі нам многа слайдаў і расказалі пра прыроду і гісторыю пушчы. Я з зацікаўленнем выслухала расказ пра зуброў, „рэліктаў дагістарычных часоў". Мяне вельмі здзівіла тое, што коні, якіх сёння можна сустрэць у Белавежскай пушчы, гэта несапраўдныя тарпаны.

Праз цэлую сустрэчу ў зале панавала цішыня. Думаю, што, як і я, усе з захапленнем пабачылі слайды і паслухалі цікавых апаведаў пра пушчанскі свет.

**Анна Аўсянюк, VIII „е" кл.**
**ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім**


Дзеткі з беларускага прадшколля вучацца рабіць святочныя цацкі. З малечамі Альжбета Фіёнік (першая злева) і Альжбета Рудчук. Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# З беларускай паэзіяй і прозай



*Пераможцы ў катэгорыі наймалодшых вучняў: (злева) Магдалена Дудзіч, Гжэсь Плева і Агнешка Врублеўская.*

Элімінацыі дэкламатарскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы „Роднае слова" праходзілі ў Гайнаўскім павеце 15 студзеня 1999 года. Амаль сто вучняў падставовых школ пачынаючы ўжо з нулявога класа, у якім яшчэ не вучацца беларускай мове, прыехала ў Падставовую школу н-р 6 у Гайнаўку разам са сваімі настаўнікамі беларускай мовы.

Конкурс пачаўся ад наймалодшых, якія крыху хвалюючыся, шчыра і займальна дэкламавалі дзіцячыя вершыкі, а некаторыя памагалі сабе і адпаведнымі жэстамі. Калі журы, у склад якога ўваходзілі метадыст беларускай мовы Тамара Русачык, паэтэса Надзея Артымовіч ды журналіст і пісьменнік Янка Целушэцкі ацэньвала наймалодшых, усе вучні пайшлі на пачастунак. Пасля перапынку стала вядомым, што сярод дашкольнікаў і вучняў з класаў I-III перамаглі: **Магдалена Дудзіч** з Ласінкі, **Агнешка Врублеўская** з Кленік і **Гжэсь Плева** з Падставовай школы н-р 6, якія апынуліся на першым месцы. На другім месцы былі **Ілона Скепка** са Старога Корніна, **Юстына Ракоўская** з Кленік і **Павел Шышкевіч** з Нарвы, а на трэцім **Ева Кулік** з Падставовай школы н-р 2, **Юстына Асіпюк** з Нарвы і **Вайцех Лешчук** з Семяноўкі.

— Дашкольнікі і вучні з першага класа яшчэ ж і літар не ведаюць, а ўжо з нашай і бацькоўскай дапамогай добра гавораць па-беларуску, — сказаў настаўнік са Старога Корніна Васіль Сегень, якога вучні спаборнічалі ў розных групах. — Калі раней зацікавім іх беларускай мовай, пасля больш ахвотна прыходзяць на ўрокі.

Вучні з IV-V класаў былі ўжо крыху больш адважнымі і дэкламавалі даўжэйшыя вершы і прозу. Першыя месцы і найлепшыя ўзнагароды атрымалі аж дзве вучаніцы Пачатковай школы н-р 6, у якой і праходзіў конкурс, **Барбара Каліноўская** і **Пауліна Пашко**, а таксама **Магдалена Чыквін** з ПШ н-р 2. Другое месца занялі **Анна Сянкевіч** з ПШ н-р 2, **Ева Клімюк** з Кляшчэляў і **Анна Дудзіч** з Ласінкі. Так, як і ў папярэдняй катэгорыі трэцяе месца дало яшчэ магчымасць удзелу ў цэнтральных „змаганнях" з беларускім словам, а пакарысталіся гэтым дзве вучаніцы: **Анна Трафімюк** з Кленік і **Анна Іванюк** з Нарвы.




*Ілона Скепка са школы ў Старым Корніне.*

Найстарэйшыя вучні падставовых школ вялі сябе найбольш дастойна. Былі сярод іх і такія, што, карысталіся вопытам з мінулых гадоў. Найбольшых поспехаў у гэтай групе дабіліся вучаніцы з Ласінкі **Пауліна Пашко** і **Наталля Кос**, якія разам з **Марыяй Шыманюк** з Нараўкі апынуліся на першым месцы. Другім месцам камісія надзяліла **Анэту Яканюк** з Нарвы і **Андрэя Календу** з Кляшчэляў, а трэцім — **Пятра Вашчанку** з Дубін і **Кацярыну Вэнцка** з Крыўца.

**Аляксей Мароз**
*Фота аўтара*

# Пушчанская легенда

Ля дарогі ў адну з нашых пушчанскіх вёсак растуць дрэвы-не-дрэвы — дзве вольхі, якія вырастаюць з аднаго ствала, ды яшчэ паміж іх уціснулася бяроза; аднолькава высокія і тоўстыя. Пра гэтую цікавую прыродную з'яву кружыць такая легенда.

У даўнія часы, калі людзям жылося бедна, а хлеб быў багаццем, якое ў сям'і дзялілі вельмі справядліва, жылі тры дзяўчаты. Маня і Гануля былі сёстрамі, а найлепшай іхняй сяброўкай была Зося. Дзяўчаты часта хадзілі ў лес па ягады ды грыбы. Але лес у той час не быў для ўсіх! За гэта трэба было плаціць. Вядома, у дзяўчат грошай не было, дык хадзілі ў лес без дазволу. А людзей, якія так уваходзілі ў лес чакалі непрыемнасці — палясоўшчык мог знішчыць кошык, забраць ягады ці нават пабіць чалавека, які без дазволу адважыўся ісці ў пушчу.

Аднойчы дзяўчаты пацíху пайшлі зранку ў лес. Палясоўшчык аднак пачуў трэск галля і ўжо чакаў іх. Схапіў Зосю за касу, што вужакай сплывала з-пад белай хусцінкі. Дзяўчына крыкнула як злоўленая птушка ды страціла прытомнасць. Дзяўчаты кінуліся наўцёкі. Манін саян запутаўся ў ядлаўцовыя галінкі, а Гануля ўпала, зачапіўшыся за камель паваленага дрэва. Дзяўчаты ляжалі без дыху, а палясоўшчык таптаў іх ягады выглянцаваным ботам, ламаў кошыкі з лясным дабром. Пасля рушыў у свой бок, напяваючы вясёлую песеньку.

Дзяўчаты памалу прыходзілі ў сябе. Зося войкнула, трымаючыся за галаву. Гануля ўбачыла свае абдзёртыя да жывога калені, Маня выцірала заплаканыя вочы і крывавы шрам на круглай шчацэ. Потым усе тры падняліся на ногі і селі, абняўшыся, на шырокім пні паваленай бярозы і дружна зарыдалі ад крыўды і болю, аж заходзіліся: „За што ён так? За што?! Тата два тыдні над кошыкам сядзелі, як жа нам вярнуцца цяпер дахаты?"

Трэснула галінка. Дзяўчаты прыціхлі, чакалі новага ліха. Ізноў штосьці глуха трэснула. Дзяўчаты азірнуліся. Абапіраючыся на сукаватым кіёчку, з кошыкам поўным лекавых травак, выйшла з лесу старэнькая бабулька з тварам нагадваючым дубовую кару, з усмешкай як прамень сонца ў цёмны дзень. Гануля, Маня і Зося замерлі.

— Дзень добры добрым людзям, а паганы ўсім дрэнным. Шчасця ў няшчасці і суму ў радасці вам, кветкі веснавой прыгажосці, і ўсім лепшым ад чорта і пана.

— Добры дзень, — адказалі дзяўчаты хорам. — Хто вы, бабулька?

— Я — лес і птушыны спеў, вецер і прамень сонца, жыхарка лесу і памочніца добрых людзей.

— Ці вы — бабка Ліза, пра якую мне мамуля расказвалі? — запытала Гануля.

— Гэта я і не я, — адказала бабулька маладым голасам. — А што з вамі такое здарылася?

Пасыпаліся скаргі на злога палясоўшчыка.

— Ён ужо нікога і ніколі не зможа пакрыўдзіць! — як далёкі гул грому прагучалі словы бабулі. — Вось зачапіўся за корань, упаў, і жыццё з яго выцякла.

— Ён — нежывы?!

— Няма нікога і нічога вечнага на гэтым свеце, і яму прыйшоў таксама час. Гэты ўчынак яму не дапаможа ў той дарозе, на якой ён цяпер апынуўся.

Лес шумеў, кукавалі зязюлі. Бабуля рушыла ў той бок. Дзяўчаты як завarожаныя глядзелі ёй услед, потым глянулі на свае раструшчаныя кошыкі. Вось дзіва якое: стаяць сабе тыя кошыкі навюткія, з вярхом напоўненыя чарніцамі ды суніцамі, а побач растуць дзве вольхі з бярозкай.

— Як памятка вашай крыўды яны тут выраслі, — зашумеў лес, а можа ім толькі здалося.

Калі дзяўчаты сталі бабулямі, расказалі гэта сваім унукам. Хочаце, верце, хочаце — праверце: дзве вольхі з бярозай растуць і цяпер, могуць гэтую гісторыю вам прашумець.

**Іаланта Грыгарук**

# Польска-беларуская крыжаванка № 5

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) на працягу 3 тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Łapa | ▼ | Głaz | ▼ | Żal / Dom | ▼ | Symptom | ▼ | Znachor |
| Owad ▶ / Niewola | | ▼ | | ▼ | | | | |
| Palma / Pot | ▶ | | | | | | | |
| ▶ | ▼ | | | | | Imię chińskie | | |
| | Ogrodzenie | | | Skład ▶ | | ▼ | | |
| ▶ | | | Kair ▶ | | | | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 1:** Лозунг: Свята Каляд.

Узнагароды, **запісныя кніжкі**, выйгралі: **Юстына Купчук** з Ляхоў, **Марыя Альшэўская** з Бельска-Падляшскага і **Бэата Парфянюк** з Хітрай. Віншуем! Узнагароды можна ўзяць у рэдакцыі „Нівы" або чакаць іх у сваёй школе.

**На ўзмежку**

# Пад небам Сяміпалацінска

Міжбугаодэрцы вераць у сваю гасціннасць, як у Каралеву Чанстахоўскую.

— Няма шчадрэйшых людзей у свеце! — ціснуць на пляменную псіхіку родавыя магі.

Дзеля чаго? Унушэння выключнай ролі? Комплексу пакрыўджанасці — свет нас не разумее?

І нашы палітыкі — белыя, чырвоныя і мутанты — пратрубілі Клінтану вушы:

— Мы спадчыннікі готаў, у нас з вамі агульная мэта. Мы най-най... І „най" — белы папа наш... Да Папы! Да Папы! У Нью-Йропу!

Толькі зялёныя, карычневыя і чорныя насуплена ашчэраны. І гэтым насцярожваюць еўратузаў:

— Прымаем жа вас! — тлумачыць няўседлівым занудам. — Міжбугаодэрлянд першы ў чарзе. *Langsam!* Пашырым суполку. Падзелімся спадчынай. Толькі не ідзіце да нас, спадчыннікі, з песняй *Nie damy ziemi, skąd nasz ród. Verstehen? Langsam, aber gut!* Або, як кажуць у вас: *Pomalu, no koroso!*

— Толькі без злога джына! — узмаліліся нашы дзяржаўныя еўрыкі. — Да млоснасці абрыдлі слінявыя зяпы і ўчэпістыя абдымкі касалапага Мішкі. Баімося каварных азіятаў!

А баяцца няма чаго. Жывуць там сапраўдныя хлебасолы. Рускі з голаду пампэ, а суседа накорміць. Сам замерзне, а цябе абагрэе Ямалам. Грузін ні за якія скарбы не выдасць ворагу госця. А што казаць пра сярэдніх азіятаў!

Распавядае Барыс Руско, колішні ракетчык:

Палкоўнік, маёр і я (тады капітан) прызямліліся на палігоне пад Сяміпалацінскам. Выпусцілі ў бок вераломных кітайцаў рэактыўнае свінчо і пайшлі ў суседні калгас знаёміцца з тубыльцамі і іх звычаямі.

Сустрэў нас старшыня калгаса Сара Сарабаеў, прыняў як родных братоў. Паказаў сваю вотчыну, зарэзаў тлустага барана, завёў у спадчынную юрту, пасадзіў на ганаровыя зэдлікі, узяў у рукі дамбру, — ён і акын, па-нашаму „бард", — ударыў костачкамі пальцаў у дзве струны (больш струн інструмент не меў) і ўрачыстым тэмбрам праспяваў вітальную песню. Пачыналася яна прыблізна так:

Вітаем, вітаем Вас,<br>
Госці дарагія!<br>
Жадаем, жадаем Вам,<br>
Вечна з намі жыць!

Песня доўжылася, таму запамятаў я толькі пачатак. Услаўляла польскіх ракетчыкаў — „непахісных стражнікаў непарушнай Варшаўскай дамовы".

Рамантычны настрой падтрымлівала жонка Сарабаева, яшчэ даволі рухавая і не надта каб старая. Яна завіхалася каля стала: расстаўляла ёмістыя бутлі градуснага кумысу, абкладала іх „мікіткамі" (кукурузнымі праснакамі) і дарамі Іртыша: асетрынай, нельмай, муксунам, чэбакамі. Напітак і ежу падносілі дочкі — старшая, ужо ў гадах, і васемнаццацігадовая — лебядзіны цуд сяміпалацінскага неба.

Калі гаспадынькі вычаравалі абрус-самабранку, лірыка ўкрапілася ў эпіку. Уважлівы гаспадар стала прапанаваў першы тост выпіць за „доблеснае Войска Польскае і вечную дружбу". Выпілі і закусілі асетрынай.

Другі тост гаварыў наш палкоўнік. Выпілі за гаспадара, дбайнага ахоўніка праслаўтай сярэднеазіяцкай гасціннасці і за цудоўных жрыц сямейнага ачага. Закусілі харчом.

Потым пілі за радзіму — адну, другую, агульную — за ўвесь прагрэсіўны свет і ягоную сталіцу. Закусвалі дарамі Іртыша, каўказскім шашлыком і „мікіткамі".

І наладзілі айтыс „Блакіт — 00", песеннае спаборніцтва. Гаспадар славіў урадждай, гаспадыня мір, мы, вядома, ваенныя дарогі. Усіх пераўзышла „Ракетка", як мы ахрысцілі васемнаццацігодку. Плаўнымі крочкамі абкружыла яна сябрыну, узляцела на свой зэдлік і пранікнёна праспявала пра каханне. Мы апладзіравалі ёй стоячы.

Селі, выпілі за заваёўніцу цвёрдых салдацкіх сэрцаў і запілі зялёным чаем.

Весела пілося і елася. А калі накумыціліся, нашашлычыліся, намікіціліся, наайтысіліся — гаспадар узняў пытанне дастойнага адпачынку.

— Гонар спаць з маёй жонкай даю палкоўніку! — урачыста аб'явіў ён, з гордасцю блісьнуўшы шчаслівымі зрэнкамі. — Да старшай пойдзе маёр, — працягваў расстаўляць нас па рангах. — Капітан, прашу прабачэння, ляжа з „Ракеткай". Выказаўся ясна? Дык да заўтра! Пара...

Мы аслупянелі. Убачыўшы нашу нерухавасць, Сарабаеў вылупіў на нас сярэднеазіяцкія вочы:

— *Али русский язык непонятный?*

Палкоўнік спрабаваў дыпламатнічаць. Маўляў, мы б з ахвотай, але прысягалі жонкам вернасць. Дый служба не дазваляе.

— Падумаеш, рыцары! — сараматіў нас пакрыўджаны казах. — Прысяга! Вернасць! — учапіўся за словы палкоўніка, пераходзячы на „ты". — Я ж табе даю сваю жонку толькі на адну ноч, а не на пажыццёвае карыстанне. Я — што, няясна выказаўся? Плюю на ваш звычай! Ты ў маёй юрце, дык, будзь чалавекам, шануй нашы звычаі! — наступаў. — Які-небудзь клёк маеш у галаве? — асведамляўся. — Якая ганьба, якая няслава! — захліпаючыся ад крыўды, галасіў. — А калі ты асарамаціў мяне, ушануй прынамсі мой дом! — павучаў.

Ніякія аргументы Сарабаева не пахіснулі прынцыпу палкоўніка. Хоць быў ён пад градусамі, цвёрда стаяў на нашых вартасцях. Выбуховую сітуацыю разрадзіў камендант стрэльбішча. Занепакоены знікненнем саюзных афіцэраў, пусціўся ў пошукі. Ён і ўціхамірыў раззлаванага ахоўніка мясцовай традыцыі. А ці абразіўмі? Наўрад. Калі мы развіталіся, у агніста-чорных зрэнках нашага дабрадзея палымнеў душэўны боль:

— Я — азіят! Так?

Пытаеш, як у гэтай сітуацыі чуўся я? А як можа чуцца мройнік, якому з-пад носа сцібрылі дарунак восьмага неба?

**Георгій Валкавыцкі**

# Да разгадкі аднаго псеўданіма

Першае знаёмства з Васілём Горным адбылося на старонках „Беларускай нівы" (1926 год, № 19), дзе быў надрукаваны яго верш „Адказы". Верш зацікавіў сваім адкрытым эмацыйна-экспрэсіўным пафасам. Відавочны былі і мастацкія вартасці верша. А калі ўлічыць, што змешчаны ён быў у „Кутку наймалодшых", то можна з упэўненасцю сказаць, што ў літаратуру ішоў малады паэт.

Зразумела, узнікла пытанне: хто такі Васіль Горны? Дарэмна было шукаць даведку пра аўтара ў беларускай энцыклапедычнай і бібліяграфічнай літаратуры. Праўда, псеўданімы Васіль і Горны сустракаюцца ў пераліку шматлікіх псеўданімаў Валянціна Таўлая (Саламевіч Янка, *Слоўнік беларускіх псеўданімаў*, Мінск 1983, с. 199). Але тут узнікае рытарычнае пытанне: ці мог напісаць такі верш адзінаццацігадовы хлопчык? Адсутнічала якая-небудзь інфармацыя пра Васіля Горнага ў шасцітомным бібліяграфічным даведніку *Беларускія пісьменнікі*. Не сустракаўся больш Васіль Горны і на старонках друку. На гэтым, здавалася, і спыніліся пошукі.

Але сустрэча ўсё ж такі адбылася, і адбылася яна пад час працы ў рукапісным аддзеле Цэнтральнай бібліятэкі Акадэміі навук Літвы: вершы Васіля Горнага знаходзіліся ў справах Францішка Грышкевіча (вядомага заходнебеларускага паэта), побач з яго раннімі вершамі і карэспандэнцыяй. Відавочнымі былі не толькі падабенства почырку і стылю, але і псіхалагічна-эмацыянальная заглыбленасць вершаў, драматычна-трагічная завостранасць сітуацыі з аднаго боку, і тонкі, лёгкі лірызм, з другога. Усё гэта дае падставы меркаваць, што Васіль Горны і Францішак Грышкевіч — адна асоба. Ніжэй прыводзім падборку вершаў Васіля Горнага і Францішка Грышкевіча з рукапіснага фонду ЦБ АН Літвы (Ф. 21, справа 169).

**Янка Трацяк**

## Адказы

Разьдзяры грудзей аслону,<br>
Прытулі да сэрца вуха:<br>
І паслухай сэрца тону,<br>
Толькі ўважна там паслухай...<br>
Там паслухай і ўважай...<br>
Больш мяне ўжо ня пытай.

Распрані дачыста цела —<br>
Там ёсьць доказ нефальшывы,<br>
А паверыш, як балела<br>
У падзямельлі дэфэнзывы...<br>
Там глядзі і разважай...<br>
Больш мяне ўжо ня пытай.<br>
Прыгатоў на крыж каладу<br>
Й разьдзяры на ёй цьвікамі<br>
Найвялікшага з народу —<br>
А ня ўбачыш сьлёз між намі...<br>
А чаму? — то сам пазнай...<br>
І мяне больш ня пытай...

**16/XII.1925. Васіль Горны**<br>
*„Беларуская ніва". 1926. № 19.*

## Аўтару „Моладзі" А. Чачотцы

Стань, задзяржыся, бурная хваль!<br>
Глянь наперад! — дзе ты прэш?..<br>
Ці ж так пэўна й светла даль?..<br>
Там, дзе нас усіх нясеш.<br>
Стань. Стрымай свой грозны вал,<br>
Глянь на бераг — дзе ты б'еш;<br>
Там скарбніца нашых хвал...<br>
Ты ж яе ў мора рвеш.<br>
Стань, часоў старэчых кат.<br>
Слухай!.. Звоніць веча звон:<br>
А пад стрэхі шэрых хат<br>
Прэцца хваляй звону тон.

Мы задзержым звону хваль,<br>
Можа зьнішчым стрэхі хат?..<br>
Не!.. зьдзяржыся!.. будзе жаль,<br>
Бо пад стрэхай родны брат.

Стань, прадвеснік сьмерці й бур,<br>
І стрымай свой анімуш:<br>
Нельга нішчыць той мармур,<br>
Дзе ёсьць сьлед слаўнейшых душ.

Стань, зьдзяржыся бурна хваль,<br>
Бо загубіш імя нат;<br>
А... страшэнны будзе жаль,<br>
Як бяз імя будзеш брат.

**12.02.1926. Васіль Горны**

## Хто мы?

Мы створаны Богам,<br>
Ахрышчаны крыжам<br>
Так слаўны к падмогам<br>
Рукою і хіжам[1].<br>
Мы верны, цярплівы,<br>
Умелы, панятны;<br>
На крыўду маўклівы,<br>
А ў працы так знатны,<br>
Падпора Мы сьвету.<br>
Забралі ў няволю<br>
Страшэнну плянэту —<br>
Зямельку. А долю<br>
У пекла паслалі.<br>
Запасы каштоўны<br>
Сьвятыням аддалі.<br>
І вежы царкоўны<br>
Са срэбра ўкавалі.<br>
Ля боку ў выгодзе<br>
Гадуем тут ката,<br>
А самі ж у годзе<br>
Не зналі шчэ сьвята...<br>
Давольны мы горам...<br>
Братоў нат ня знаем,<br>
А чортавым творам<br>
Ахвяры складаем.<br>
Ад дзеда й прадзеда<br>
Заўсёды чарэда<br>
Гніець нас у брудзі...<br>
Зьвяр'ё Мы, ці людзі?

**16.04.1924. Васіль Горны**

[1] Хіж — шыбкі бег да працы

## Чорны летапіс

Апошні ліст пэргамэнту прышылі,<br>
Каб скончыць чорны летапіс пісаць:<br>
А ветры дажджавыя каб нам слоў ня змылі,<br>
Паставім на лісьце працоўную пячаць:<br>
Зачэрпнім кроўі, што бурліць у народзе<br>
І ўпішам ёю тут наш гымн Свабодзе.

Стары манах, прад тысячу гадамі,<br>
Пачаў ражном гісторыю пісаць.<br>
А сьмерць і зьдзек між чорнымі радкамі<br>
Стаўлялі кожны дзень галодную пячаць:<br>
Манах глядзеў і строга год па годзе<br>
Лічыў князёў і бунты кляў у народзе.

Апошні ліст пэргамэнту прышылі,<br>
Каб скончыць чорны летапіс пісаць:<br>
А ветры дажджавыя каб нам слоў ня змылі,<br>
Паставім на лісьце працоўную пячаць:<br>
Зачэрпнім кроўі, што бурліць у народзе<br>
І ўпішам ёю тут наш гымн Свабодзе.

**Франук Грышкевіч**

# Сямятыцкія іконы

Найстарэйшыя іконы ў царкве ў Сямятычах — гэта іконы святых апосталаў Пятра і Паўла ды святой Параскевы. Напісаныя яны на дошках на пазалочаным фоне з адціснутым у грунце арнаментам.

Заснавальнікам царквы ў Сямятычах (і ў недалёкім Мельніку таксама) быў Алехна Кміта Судымонтавіч. У заснавальніцкім акце сямятыцкай Свята-Троіцкай царквы з капліцамі св.св. Пятра і Паўла ды св. Параскевы ад 1431 г. чытаем: *... на горе над рекою Мухавцом между дорогами Чатыговскою* [Чартаеўскаю] *і Цехановецкаю храма святой Живоначальной Троицы с пределами святых апостолов Петра и Павла и преподобной Параскевы называемой Пяток...*



Царква захавался на гэтым самым месцы да нашых часоў. *Гродненский православно-церковный календарь...* ад 1899 г., аўтарства епіскапа Іосіфа Сокалава змясціў такую вось гістарычную вестку: *...в церкви имеются старинные св. иконы св. ап. Петра и Павла и св. Параскевы писаные на деревянных досках в половинну на золотом фоне с узором выписанные при основании первой церкви в 1430 г. из Киева.*

Шанаванне св. Параскевы Тырнаўскай (14/27 кастрычніка), званай Пяткай, распаўсюджанае было ў колішніх Кіеўскай, Галіцкай і Літоўскай мітраполіях. На пачатку XV стагоддзя мітрапаліт Рыгор Цамблак аб'явіў святую заступніцай праваслаўя ў польска-літоўскай дзяржаве. Пашыраны ў Кіеўскай Русі культ распаўсюджваўся таксама на Карпаты, Холмшчыну, дайшоў на Падляшша. Тут многія цэрквы пасвячаліся ў гонар св. Параскевы, напрыклад, у Кленіках, Райску, Дабрывадзе, а таксама бакавы алтар колішняй царквы ў Кляшчэлях.

Царква ў Сямятычах прыняла унію ў 1614 г. У першай палове XVII ст. уладальнікам Сямятыч стаў Леў Сапега, які заснаваў чарговую драўляную царкву. У тастаменце пакінуў ён наступны запіс: *... wszystkie fundacje wydane ruskim cerkwiom przy życiu testatora powinny nienaruszone pozostawać za nimi pod nadzorem biskupów greckich — metropolity kijowskiego, arcybiskupa połockiego i biskupa łucko-pińskiego i ich następców, a kto odważy się łamać moją tą wolę niech będzie przeklęty.* Леў Сапега і ягоны сын Казімір у 1626-27 гадах заснавалі цяперашні мураваны касцёл Св. Тройцы.

Чарговая згадка аб іконах паходзіць з 1726 г.: *Wizyta generalna Cerkwi Siemiatyckiey pod tytułem Świętey Tróycy... bokowych ołtarzów dwa przed kryłosy na gradusach z skrzydłami u wierzchu snicersko robiono. Na gradusach sobie podobne ieden z nich Stych ap-łow Piotra y Pawła, a drugi S. Praxedy.* У XVII ст. царква ў Сямятычах у штораз большай ступені стала прыпадабняцца да касцёла. У багаслужбы стала ўводзіцца лацінская мова, а ў абсталяванне царквы — касцельныя элементы. Аднак прыхаджане здолелі адстаяць іканастас з царскімі варотамі, што дазволіла храму захаваць першапачатковы выгляд.

У дакуменце ад 1774 г. знаходзіцца такое вось апісанне: *... wewnątrz — główny ołtarz, za ikonostasem przy ścianie pod obrazem Św. Troycy...* Пры іконах Збавіцеля, Божай Маці, апосталаў Пятра і Паўла, св. Параскевы ўстроены былі маленькія алтарыкі, ля якіх спраўляліся *ціхія імшы*. Галоўны алтар царквы пасвячаны быў у гонар Св. Тройцы і ў гэты дзень прыбывалі сюды многія паломнікі. У рымска-каталіцкім касцёле ў гэты дзень адбываліся галоўныя ўрачыстасці Св. Тройцы. Парох сямятыцкай царквы пасля ранішняй багаслужбы ў сваім храме абавязаны быў удзельнічаць у касцельных святкаваннях.

З цягам часу традыцыя адзначаць Св. Тройцу як прыхадское свята была спынена, а ў касцёле захавалася да сённяшняга дня. У царкве прыхадскімі святамі сталі святкаванні ў гонар апосталаў Пятра і Паўла і св. Параскевы, аб чым сведчыць візіта Драгічынскага дэканата ад 1789 г.: *cerkiew pod tytułem S. Apostołow Piotra i Pawła i ś. Praxedy.* У згаданым дакуменце пералічваюцца іконы ў алтарыках: *...w cerkwi na 3cim S. apostołow Piotra i Pawła, na czwartym S. Praxedy.*

Згаданыя іконы пратрымалі ўсе неспакойныя перыяды ў гісторыі Царквы. Паводле гісторыкаў мастацтва, гэта мастацкія творы рускавізантыйскай культуры. Былі яны рэстаўрыраваны ў 1973 г. Марыяй Ортвейн з Варшавы. На яе думку, іконы былі напісаны ў пазнейшы перыяд. На іконе, памерамі 107 х 77 см, знаходзіцца *stojąca postać św. Paraskiewy, prawa ręka na piersi, w lewej duży brązowy krzyż. Odziana w długą niebieską suknię, płaszcz o ugrowym spodzie, na głowie oliwkowa chusta, nimb pełny, złoty. Po prawej stronie zabudowania prawosławnego soboru, w bramie wjazdowej — odwrócona tyłem postać kobieca. Po lewej — wysokie drzewo i postać kobieca, ponad ramionami świętej dwa aniołki. Aniołki trzymają zielone palmy i wieniec laurowy. Obraz w drewnianych ramach dekorowany czterema snycerskimi koboszami.* Захаваліся гімны ў гонар св. Параскевы. Да сённяшняга дня вернікі ў Сямятычах спяваюць:

*Параскево, райски цвете,*
*Твое имя по всем свете.*
Прыпеў: *Як цвет райскі просвещаеш,*
*Нашу веру украшаеш, Мати преподобная.*
*В святой вере твердо стала,*
*Еретиков укарала.*
................
*Юнны девы принимала,*
*Святой вере научала.*
................
*Церковь Тебя прославляе,*
*Імя Твое велічае.*
................



Ікона святых апосталаў Пятра і Паўла, памерамі 107 х 77 см, прадстаўляе *stojące postacie ap. Piotra i Pawła, św. Piotr w prawej dłoni opuszczonej trzyma księgę, a w lewej dłoni dwa duże klucze. Odziany w długą szafirową suknię i ugrowy płaszcz przerzucony przez ramiona. Św. Paweł w prawej ręce trzyma miecz wsparty o ziemię, w lewej opuszczonej ręce trzyma księgę. Odziany w jasnoczerwoną suknię i niebieski płaszcz spięty na lewym ramieniu. Wokół głów nimby pełne, złote. Widoczny na ikonie fragment cerkwi. Obraz w drewnianych ramach dekorowany czterema snycerskimi koboszami.*

Захаваныя іконы стагоддзямі былі і цяпер застаюцца святасцю для сямятыцкіх і навакольных прыхаджан. Трэба спадзявацца, што і ў далейшым будуць яны шанавацца, а святыя апосталы Пётр і Павел ды св. Параскева будуць распасціраць сваю апеку над Божым людам Падляшша.

**(агс)**

# Экуменія і правапіс

Кожны год у другой палове студзеня ўвесь хрысціянскі свет святкуе тыдзень малітвы аб еднасці веры. Яна можа быць дасягнута шляхам паглыблення тэалагічных даследаванняў, сярод якіх ёсць больш складаныя і лягчэйшыя, якія не патрабуюць шмат працы. Да іх належыць праблема правапісу яўрэйскіх слоў Старога і Новага Запаветаў: іменаў і геаграфічных назваў.

Справа ў тым, што стараяўрэйская мова (іўрыт) належыць да семіта-хаміцкай сям'і моў, а грэчаская — да індаеўрапейскай, і таму ў гэтых дзвюх мовах гукі (зычныя і галосныя) не заўсёды супадаюць. Бяда была і ў тым, што ў басейне Міжземнага мора яўрэі ў апошніх двух тысячагоддзях мелі іншае вымаўленне гукаў (сефардыйскае), а іншае ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе (ашкеназійскае). Гэтае апошняе ведалі славяне і гэта мела ўплыў на форму правапісу перакладу Біблії.

14 мая 1948 года была абвешчана дзяржава Ізраіль. У ёй перамагло сефардыйскае вымаўленне. Кожны імігрант павінен быў прайсці сяміцідзённыя курсы вывучэння іўрыту. Ізраільская Акадэмія навук знармалізавала вымаўленне і правапіс іўрыту і менавіта гэта дае магчымасць зрабіць аднастайным ва ўсім хрысціянстве правапіс у біблейных перакладах.

Як вядома, Ян Гутэнбэрг (1394-1468) быў айцом еўрапейскага друкарства, а раней трэба было вучыцца з рукапісаў. Ну і Грэцыя не была — як яўрэі — у дыяспары і... бліжэй да Русі. Таму славянскія перакладчыкі ўвогуле не заглядалі ў стараяўрэйскі арыгінал, а за аснову ўзялі Септуагінту, г. зн. грэчаскі пераклад Старога Запавету названы так, бо яго зрабілі 72 асобы (скарачэнне: LXX) у Александрыі (Егіпет) у III стагоддзі да нашай эры і пазней, аднак ні Арыстэй, ні Тэадацыян, ні Сімах, ні нат Арыген не справіліся з перакладам і папраўлялі іх Ісіхій ды Лукіян. Ёсць і разнабой у тэкстах, бо перакладчыкі карысталіся часам рознымі рукапісамі, у якіх былі напісаны толькі зычныя гукі, што давала мнагазначнасць. Толькі пазней яўрэйскія *масарэты*, а сярод іх караімы, вынайшлі сістэму вакалізацыі (адзначэння галосных гукаў пунктамі ды рыскамі) і акцэнтаў. На Русі патрыярх Нікан (1605-1681) абдумаўся, што ў стараславянскім перакладзе Біблії шмат памылак і загадаў іх папраўленне. Малаграматныя людзі запратэставалі і адсюль узяліся раскольнікі (стараабрадцы, стараверы). Аднак, аказваецца, што не толькі не папраўвілі ўсіх яўрэйскіх тэкстаў Старога Запавету, а вось дапусцілі памылку і ў грэчаскай мове, якую паўтарылі царкоўнаславянскія слоўнікі, выдадзеныя ў Беластоку і Гайнаўцы ў 1996 годзе.

У Пасланні Якуба (5,4) чытаем: „І лямант жнецоў дайшоў да вушэй Госпада Саваофа". Апошняе слова захавалася не толькі ў царкоўнаславянскім, але і ў рускім ды беларускім перакладах, хаця часам яго перакладаюць „Госпад Сіл". Грэкі маюць слова САВАОΘ, у якім перакручаны першая і апошняя літары (у параўнанні з цяперашнім вымаўленнем). У арыгінале слова гэта цяпер гучыць „ЦЭВАОТ" ад „ЦАВА" = армія (анёлаў). У грэчаскай мове літары „Ц" няма, а ў славянскіх ёсць, і менавіта таму трэба гэта папрaвіць. Таксама цяпер няма „Θ", якое змянілася ў „Т" (на Русі ў „Ф").

У польскім праваслаўі існуе спакуса браць механічна, літаральна ўсё з Русі. А тут чакае яшчэ адна загвоздка. Тон задалі ў біблейным правапісе двух вучоных: Эразм Ратэрдамскі (1467-1536) і Ян Рэйхлін (1455-1522). Адзін з іх загадаў фармавацъ грэцкія словы паводле старагрэчаскага вымаўлення, а другі — новагрэчаскага. У Польшчы перамагло старагрэчаскае і дзеля таго восьмую літару грэчаскага алфавіта паляк называе theta а расіянін — фита, і таму атрымалася: Tomasz — Фома, Sabasz — Савва, Eliasz — Илья, Barbara — Варвара, Herod — Ирод.

**Сэрафін Корчак-Міхалеўскі**

Жыды ў Нараўцы

# Мы яшчэ іх крыху памятаем...

**Успамінаюць Іван КАСТАНЧУК з Баравых і Мікалай ЧАРНЕЦКІ з Нараўкі.**

— Пытаешся, як яны з намі жылі? Добрэ жылі з беларусамі, — кажа Іван Кастанчук. — Пазычалі. Хто не мог, то праз тыдзень ці два, нават месяц мог аддаць. Не можаш заплаціць — то так адпусціць, каб ты пасля прыехаў, што трэба заплаціў, і купіў у яго яшчэ штонебудзь. Гэта каб абарот быў, і кліент быў. Талковыя людзі яны ўсе былі. Каму цэменту трэба, каму грошай ці адзення — не пыталі грошай. Запіша на кніжачку. Заплаціш, бо другі раз не дасць. Кожны хоча мець добра. Жыд хутчэй табе пазычыць, як наш. Я быў з Малкам знаёмы. Я цікавіўся Малкавай дачкою, Спрынцай. Бачыш, гатоў быў жыдоўку ўзяць! І харошая такая, кучаравая, і вельмі талковая дзяўчына была. Толькі пад'едзеш да падворка, ужо брамка адчынена. Паставіш каня — яна яму сена прынясе. Бацька краўцом быў, летнікі шыў з палаценца (маці твая натчэ), зараз адмерае, бярэ мерку, пашые... А калі ад'язджаеш, то яблык табе Малкава дачка кошык прынясе, бо мелі садок вялікі, і сена падложыць на дошку... Сын Малкі, высокі такі, гандляваў каровамі. Хона зноў прымаком у Нараўцы быў. Памятаю, добры чалавек ён быў. Карову меў узяць за заплату за паліто, што я ў яго ўзяў сабе, як жаніўся. Прыехаў ён па яе, убачыў, што худая. „Я ж яе да Нараўкі не даведу. Бяры яе назад. Заробіш, пасля аддасі". Я пайшоў да вывозкі ў лес, зарабіў, аддаў за тое паліто, а яго ўжо амаль што знасіў!

У Нараўцы быў вадзяны млын, і алейня. Памятаю, палез уласнік штосьці паправіць, а сын адсунуў у той час заслону, так і змалоўся стары млынар... Не памятаю іхняга прозвішча. Саланевіч зноў добра жыў з палякамі багатымі. Ецік трымаў рэсэтаран каля рэчкі, там у доле; асядлы, моцны мужчына. Ершкі гандлявалі конмі, можна было ў іх купіць каня на выплат, на раты, значыць... Як Хону забілі, то на яго маёнтак перабраўся жыць паліцыянт К. Наш народ — не такі. Не трымаецца разам. А іх вера — ад Бога Айца, выбраны народ, і пакуты ў яго вялікія.

— Калісь казалі: „Калі не будзе жыда, то не будзе каму прадаць курку, яйка", бо ўсё гэта жыд забіраў, бо курка і яйка для іх — кошэр, — кажа Мікола Чарнецкі. — Я іх добра ведаў. Калі пусцілі вуліцу на месцы майго дома, то перасяліўся я непадалёк медрэса, іхняе школы. Памятаю прозвішчы — Яблановіч, Бірнбаум, Юдэль Айзэнштэйн... У шынку, дзе піва і квас быў, акцызу меў жыд. Сахно, Драгачынскі, Янкель (меў сляпога каня, сечку рэзаў для людзей). Стомы, Шайко — краўцы былі, Мунька Семяноўскі, Пэшко, Сіма, Бранько... Ведаў я ўсіх, хто блізка жыў. Пераплётчыца кніг Малка. Шастакоўскі. Каган — купец (тартак трымаў). Шайкоўскі, Мэндэл, Фройка. Усе павязаны — радня. Былі такія, што крыху гаспадарылі, трымалі коней. Помню, Высоцкі ў гуце быў, меў каня, вазіў дровы, у Альхоўцы строіўся майдан, то давозіў туды ён цэглу. Бірнбаум трымаў ятку кашэрную, прадаваў мяса „чыстае" і без жылак (прадаваў гоям задкі цялят, тое мяса было для нас найлепшае, а ім нельга есці было задкоў). Настаўнік Такарскі, ён больш жыдоўскіх дзяцей па хатах вучыў. Калі прыйшлі саветы, у саракавым у тую іх школу паставілі бочку бензіну і склалі адзенне навабранцаў. „Чом тое не ў царкву ці ў касцёл паклалі, а ў нашу школу?" — пыталіся. А ж жыдоў многа было і ў савецкім войску, маглі заступіцца. Нашы жыды самі тое запалілі. Я тады быў у пажарніках, мелі мы новую ангельскую мотапомпу, так пусцілі ваду, што адно гонты ляцелі з тае школы. Тую вуліцу Школьную перайменавалі пасля на Аградовую...

Прыйшлі немцы. Мовы ў іх падобныя. Немцы зажадалі золата. Золата ім далі. Сказалі даць яшчэ раз. І яшчэ раз. А пасля яны ўжо і не мелі, каб заплаціць за жыццё, я так думаю. Тады загадалі іх сагнаць... Я вам скажу праўду. Былі сярод нас людзі, якія беглі жыдам дапамагчы, падказаць, што нібы то свой летнік да краўца нясеш, але былі і такія, што толькі падказвалі фашыстам: „О, пан, то юд, юд!" Сагналі іх да касцёла, паклалі кругом на зямлі. Шасцёх ці сямёх выбралі здаровых маладых жыдоў, далі ім рыдлёўкі і завялі пад польскія могілкі. І там пабілі іх. А пасля прыйшлі па тых, што ляжалі. Думалі мо, прасіць будуць, даваць золата за жыццё. Пабралі ўсіх. Мой брат усё бачыў, залез быў на комін. І ўсіх жыдкоў паставілі ў чацвёркі. Калі які старык не мог ісці то — чах! — застрэлілі. Маранца тады забілі, Рэйна кульгавага. Завялі тую рэшту да таго рова. Мужчын пабілі ўсіх. Лейбу Ціхавольскага з двума дзецьмі. Зямля потым варушылася. Казалі пасля вайны, што сын Давіда Аўгустоўскага слаба відна дастаў тады, вылез з тае ямы аж над рэчку, поўзаў там, але што далей з ім было, не ведаю. Адзін хлопец раней уцёк, мой равеснік, Мойшка Зінгер, цераз акно, пачуўшы вестку пра благое. Не мог ніхто выжыць, многа сабак было свойскіх... Бабаў і дзяцей сагналі ў стражацкую шопку на цэлую ноч, потым узялі грузавік і павезлі, кажуць, што ў нейкую Ружану. Дзве жанчыны прыйшлі былі, сказалі, пэўна, што золата прынясуць. Але доўга тут не пабылі. Праз ноч даказалі немцу Андэрсу, што тыя кабеты вярнуліся. І забілі іх. Дзе схаваешся, калі свае сабакі кусаюцца! Мала было такіх?! Прыйшоў Сікорскі быццам адзін, стукаецца: адчыні, а за ім немец: „Лос!"

Загналі і нашых сем чалавек (Павел Лапінскі, Аляксандр Чарнецкі, Стульгісаў трох: Коля, Павал і Павел, Беляўсаў) у загараду ля касцёла. З дубінкаю адзін пільнаваў, урэзаў майму брату па галаве. Мой брат выцягнуў штыкеціну і ўдарыў яго, а сам давай браму адчыняць. Давай хлопцы ўцякаць. Але птушка да свайго гнязда бяжыць. Калі б беглі яны ў лес, можа і сёння жылі б. Майго брата з аўтамата забілі. Двух уцякала на Заблоччыну, як далі — мазгі ім выбілі з галоў. Усіх пазбіралі і на машыне ў лес павезлі. Кажу ўкраінцу, Піліпу Бураму, што ў Елянцы быў: „Ты хочаш жыць, і я хачу жыць, але скажы, куды той самаход іх павёз?" Свой сабака сцягнуў з майго брата камашы...

Паразбіралі жыдоўскае дабро і прадавалі. Многа ёсць такіх, хто браў тады, але доўга ён не пажыў. Можа, было якоесь іхняе закляцце. Мой сын пайшоў быў і прынёс валёнкі з камашамі, а мая Оля кажа: „Дзе ты ўзяў?" — „О, там, стаялі каля Шасткоўскага!" — „Занесь назад". А зараз бачыць: ужо суседка на нагах іх носіць. О! Бралі швейныя машыны і іншае. „Трафей!" Калісь казалі: „Як бяда, то да жыда, а калі па бядзе — то я нас... на цябе, жыдзе".

Адзін пабудаваўся на іхным месцы. Пачаў араць з Б., а тут дождж даў, калі апошнюю баразну пачалі. Выаралі скрыню. Золата. І доўга?.. Аднаму, што каня меў, крайзега пальцы адрэзала, а другі — ні стуль, ні адсюль — пілку вастрыў, папробаваў пальцамі, і абрэзаў іх. Па чужое лапы выцягаў!

Д. заняўся тым, што з помнікаў тачыдлы рабіў, асёлкі добрыя, круглыя, касу вастрыць, прадаваў. Біў жыдоўскія помнікі. І таксама доўга не нажыў. Пайшоў ужо ў зямлю. *Памэр.* Набраў чужога, а тое ў *пользу* не пойдзе.

Ужо і тых, і тых няма. І так яно ідзе ўвесь час. І па нашых тут ано клуні падпертыя калкамі застаюцца.

**Запісала Міра Лукша**

# Ля Ангербурга

**Расказ Веры ГЕРАСІМОВІЧ з Мілейчыч.**



У Прусію забралі нас 12 мая 1944 года. Са мною былі Мікалай Яновіч, Пятро Гурскі, Зіна Паўляк, Валя Бляцкая. З Мілейчыч павезлі нас фурманкамі ў Кляшчэлі, а адтуль цягніком у Бельск-Падляшскі. Там зрабілі нам медыцынскі агляд. На другі дзень завезлі нас цягніком цераз Беласток у Ангербург (цяперашняе Венгажэва).

У Ангербургу сабралі нас на вялікім пляцы, па якім хадзілі прыгожыя павы — я іх бачыла ўпершыню. Немцы прыязджалі на гэты пляц і падбіралі сабе рабочую сілу. Падышоў да мяне немец і пытаецца, ці я ўмею даіць кароў. Я адказала станоўча. Падаўся ён у кантору, відаць, каб канчаткова аформіць справу, потым вярнуўся і забраў мяне з сабою. Быў гэта Алекс Гаўсрат — баўэр з вёскі Вальдхайм. Раней працавала ў яго ўкраінка, але яна чамусьці яму не спадабалася і адаслаў яе. На яе месца ён узяў мяне. Немец аказаўся добрым чалавекам.

Баўэр быў удаўцом. Пры ім была старая маці і сястра, якая мела дачку ў маім узросце. Ірмгарт, бо так яна называлася, спявала мне песню „Волга, Волга, мутті дойчэ" і пытала мяне, ці я разумею. Я сказала, што разумею і тады яна загадала мне заспяваць гэтую песню. Я спявала крыху інакш: „Волга, Вольга мать родная, Волга русская река", а яна смяялася і гаварыла „Найн, найн, Вера, дойчлянд".

Аднойчы я скалечыла руку і адзін палец стаў гнаіцца. Мая равесніца працавала ў аптэцы. Паглядзела яна маю руку і сказала, што не павязе мяне да лекара, бо ён парэжа мне палец, а толькі прывязе мне мазь. Стала я прыкладаць яе на хворае месца аж палец нарваў. Калі нарыў лопнуў, яна прынесла мне іншую мазь і палец хутка загаіўся.

Я, так як і іншыя прымусовыя рабочыя, працавала ў полі. Палола я буракі, садзіла бульбу і абворвала яе ды выконвала ўсе іншыя гаспадарскія работы. Са мною працаваў француз Юліюс, старэйшы за мяне, жанаты. Французы атрымоўвалі пачкі. Мой французскі калега заўсёды клікаў мяне і даваў шакалад, цукеркі. Я жыла ў доме, а ён у пакойчыку ў аборы. У нядзелю ў полі мы не працавалі, але трэба было даіць кароў, як штодзень — раніцай і вечарам. У баўэра было іх шэсць, я даіла дзве, а Юліюс — чатыры. Малако ад маіх кароў выкарыстоўвалася на хатнія патрэбы, а ад астатніх чатырох кароў гаспадар аддаваў у бітонах у малачарню.

Калегі з Мілейчыч наведалі мяне двойчы — раз прыехаў Мікалай Тынкевіч, а другі раз — Пятро Гурскі. Працавалі яны ў суседніх вёсках. У маёй вёсцы працавалі яшчэ Сяргей з Арэшкава, Олек з Ягаднік.

Калі немцы рыхтаваліся да адыходу на захад, далі мне занесці солтысу дакумент, у якім паведамлялася, што набліжаецца савецкае войска і трэба ўсім эвакуіравацца. Солтыс жыў паўкіламетра далей. Выйшла я на вуліцу, а там поўна нямецкага войска. Салдаты спынілі мяне на кожным кроку, а я паказвала ім дакумент і мяне пускалі далей. Як я буду вяртацца назад, вечарам, без паперы? — думала я. А снегу было тады да пояса. Аддала я дакумент солтысу, і назад пайшла не шашою, але палявымі дарогамі, цераз узгоркі і даліны. Калі я вярнулася, моцна станіўшыся, мае гаспадары рыхтаваліся да выезду. Было якраз 1 студзеня 1945 года. Саветы пачалі страляць ракетамі, а баўэр думаў, што гэтак яны сустракаюць Новы год. Але калі снарады пачалі біць па школе, у якой стаяла войска, баўэру стала ясна, што рускія ўжо пачалі наступленне. Тады загінула многа мірнага насельніцтва на вакзале ў Ангербургу.

Пачалося адступленне на захад. Мой баўэр паехаў на машыне. Старая Эма, баўэрава маці, і яе дачка з зяцем Отам ды маёй равесніцай Ірмгарт паехалі на два дні раней цягніком, але, відаць, далёка не заехалі, бо эшалоны скрупулёзна бамбіліся савецкай авіяцыяй. А мы з Юліюсам уцякалі на падводзе. Ехалі два тыдні. Везлі скрыню курэй, пярыну. Падарожжа было жудаснае. На абочынах валяліся разбітыя фурманкі, забітыя коні, трупы людзей. А ўсё гэта дзялася ў калядны перыяд. Заехалі мы ў нейкі маёнтак, француз выпусціў курэй, рассыпаў ім мяшок аўса, а мы самі падаліся ў двор. Там нас спаткалі рускія.

Сталі мы вяртацца на папярэдняе месца. Ішла я з Любай з Беларусі і двума хлопцамі — адзін быў з Арэшкава, другі з Ягаднік. Па дарозе ўбачылі мы разбіты самалёт. Падышлі бліжэй і знайшлі ў ім дзве пары жаночых ботаў. Кожнай з нас дасталася адна пара. У вёсцы дом, у якім я жыла, быў разбураны. Пайшла я ў суседні дом, дзе жыло двое старэчаў. Яны ўсцешыліся, распытваліся пра сваіх блізкіх, прасілі астацца хаця б на адзін дзень. Але мы пайшлі далей. Мінулі Ангербург, накіраваліся на Голдап. Там я сустрэла Мікалая Яновіча з групай прымусовых работнікаў. Рассталася я з Любай і далей пайшла са сваімі ў напрамку Беластока. Ганарата засталася ў Граеве, Ніна за Беластокам павярнула ў бок Міхалова, а мы з Мікалаем дайшлі да Быстраў, адкуль Андрэй Максімюк завёў нас у Мілейчычы.

**Запісаў Віталь Луба**

# Мядзьвежая паслуга

Пасля заняпаду чыгункі асноўнай праблемай Чаромхі стала беспрацоўе. Дзесяткі людзей апынуліся ў бязвыхадным становішчы. Некаторым пашанцавала — знайшлі працу ў адлеглым Беластоку, Гайнаўцы або суседніх Кляшчэлях.

Мясцовы самаўрад намагаўся ращыць праблему арганізуючы штаты працаўнікам у галіне інтэрвенцыйных прац. На працягу 1991-1998 гадоў гміна змагла забяспечыць працай 235 беспрацоўных. Толькі ў трох апошніх гадах працавала тут больш сарака чалавек у год. Разумеючы сітуацыю на рынку працы „шчаслівцы" дзякавалі Богу, што паслаў у Чаромху такога спагадлівага войта. Аднак некаторыя з іх неакуратна ставіліся да службовых абавязкаў, а іншыя трацілі зарплаты на п'янку. Зразумела, што такія з'явы сталіся прычынай абвінавачанняў войта ў негаспадарнасці. Знайшоўся асобень, які задумаў стаць „абаронцам чалавечых правоў" і паправіць долю інтэрвенцыйных працаўнікоў у гміне. Ад імя гэтых апошніх пазваніў ён у Ваяводскую ўправу і заявіў, што ў Чаромсе дзеюцца страшныя рэчы. Не выдаецца належная спецвопратка і супы. Няма шафак для вопраткі. Працаўнікі не атрымоўваюць мыла і т.п.

Вядома, што пасля такой заявы ў Чаромху прыехалі з Беластока чыноўнікі для праверкі фактаў.

Два дні шнырылі ў паперах рэвізары ды нічога не знайшлі. Усё было ў належным парадку. Толькі дзве справы былі занесены ў пратакол у якасці недастатковага выканання службовых абавязкаў кіраўніка гміннай управы: недахоп шафаў для спецвопраткі і вялікая колькасць працаўнікоў інтэрвенцыйных прац.

У першым выпадку войт знайшоў апраўданне. Гміна ў разбудове. Не хапае памяшканняў для шафаў. Ды працаўнікі самі прызналіся, што не ставілі гэтай праблемы, бо войт арганізуючы ім працу заяўляў, што няма на гэта ўмоў. І яны пагадзіліся.

Нельга было апраўдацца ў другой справе. Так, ці інакш, гміна замнога карысталася штатамі для інтэрвенцыйных працаўнікоў.

Такім чынам штаты скараціліся ў Чаромхаўскай гміне на некалькі дзесяткаў.

— Няварта быць дабрадушным у некаторых справах, — заяўляе кіраўнік Чаромхаўскай гміны. — Бо пасля табе ніхто не спагадае, калі пачнуць цябе цягаць і прышываць пабрацімства ці карупцыю. Найлепш трымацца законаў.

У народзе кажуць: паршывая авечка ўсё стада паскудзіць. І гэта праўда. Пераканаліся ў гэтым самі чарамшукі, калі мядзьвежую паслугу зрабіў ім іхні „абаронца чалавечых правоў". Пасылаючы паклёпніцтвы на войта ў Беласток пазбавіў ён людзей працы.

**Уладзімір Сідарук**

# Шчырае дзякуй Мікалаю Лук'янюку

Сардэчна дзякую спадару Мікалаю Лук'янюку за яго палымяную адгалоску п.з. „Рак палез уперад" („Ніва" н-р 2). Гэта быў найдаражэйшы калядны падарунак у маім жыцці. І таму з гэтай нагоды жадаю яму многа шчасця, радасці, здароўя, поспехаў у асабістым жыцці і працы ды Божага блаславлення. Дзякую яму за фенаменальную памяць, што прыгануў мне вытрымкі з майго артыкула, які быў надрукаваны ў польскім салідарніцкім „Tygodniku Białostockim" у 1990 годзе. Я сёння лічу цалкам слушным і пацвярджаю, што калі ў нас была „цвёрдая" камуна, дык „Ніва" была скамунізавана і жыла пад дыктоўку любімай партыі, так як і ГП БГКТ. На першых старонках змяшчаліся партрэты сакратароў і гмінных царыкаў і апісана іхняе „геройства". Так было. Але і сённяшняя „Ніва" мала розніцца ад тае, бо цяпер у ёй паявіліся іншыя царыкі, любімцы, падхалімы і пішацца пра іх мора хлусні. Так як першыя, так і другія „Ніву" ў руках не трымалі і не трымаюць.

І сапраўды я напісаў у той польскай газеце праўду, як Чырвоная Армія прыйшла ў Дубічы-Царкоўныя ў 1939 годзе. І ганебна было б, каб беларускі музей у Гайнаўцы меў назву „ruchu rewolucyjnego". Так я пісаў і поўнасцю пацвярджаю гэта і думаю, што гэтым я не паскуджу сваё гняздо; горш было б, калі б было наадварот.

Спадар Лук'янюк піша яшчэ: „не ўдалося Мікалаю Панфілюку звязацца з салідарнікамі, хаця тады ён іх так моцна расхвальваў". Што ж, магчыма, што я іх і перахваліў. Але я з імі пражываю ў дружбе, і то вялікай. Я „Салідарнасць" цаню, а яна мяне, бо ўсе яны ведаюць, што крытыкую зло, якое засела ў гэтую прафсаюзную арганізацыю. А зло хто? Гэта тыя сталінскія тыпы, што ўлезлі ў кіраўніцтва „Салідарнасці" і сеюць зло. І я стараюся іх расскрыць і ачышчаць гэты прафсаюз. Я „Салідарнасці" ўдзячны хаця і за тое, што ў 1981 годзе дапамагла мне адваяваць свой лес (5 гектараў), які камуністы ў 1977 годзе абманам забралі маім бацькам. І як мне не любіць „Салідарнасць"? А крытыкаваць кожнае зло маю права, бо маем свабоду і дэмакратыю і ніякі царык не прыйдзе да маёй хаты з пагрозай. Мо замнога крытыкую Амерыку. Але вялікі аўтарытэт папа Ян Павел II, які найбольш прычыніўся да падзення камунізму, публічна перад цэлым светам асуджае варварскія бамбардзіроўкі амерыканцаў у Іраку. І Амерыка на яго не гневаецца і думаю, што на мяне таксама не гневаецца, тым больш, што „Ніву" там мала хто чытае. І „Салідарнасць" на мяне не гневаецца, бо лепш любіць шчырага, чым крывадушнага, у якога сэрцы засеў чырвоны д'ябал.

Буду пісаць у „Ніву" як мне сэрца дыктуе: хваліць, крытыкаваць, настаўляць камуністаў, капіталістаў, амерыканцаў і простых людзей — хто на што заслужыў.

Яшчэ хачу падзякаваць спадару Серафіну Корчаку-Міхалеўскаму за яго мінулагоднюю адгалоску „Камуна з людскім рылам" („Ніва" н-р 40), пасля якой маё сэрца стала мяккім як палатно.

**Мікалай Панфілюк**

# Свята, свята...

Каб кожны дзень столькі як на свята мяса есці, то не мог бы праз дзверы ў сваю хату ўлезці. Колькі было б трэба парсюкоў забіць, каб такіх абжораў як я пракарміць! А на ўсё мне гэта рускі спірт памагае, бо ўсе „калорыі" ўва мне ён спаляе. А нашыя ўлады аб гэтым усё добра знаюць і „рускіх" праз граніцу лёгка прапускаюць. Каб не тыя „рускія", хоць ім так не вераць, не было б у нас свята ні тостаў над меру. Бо свае граэлкі нам цяжка купіці, яна найдаражэйшая хіба ва ўсім свеце. Грошай нам не хапае, каб Сейм утрымаць, трэба тады цэны на гару падняць. Каб паслам тым нашым было лепей жыць, то трэба люд працы як найбольш душыць! Калі б з людзей апошні грошык той здабыць, то змогуць нашы ўлады як найлепш зажыць!

Хоць мы кажам праўду, аб гэтым усе знаюць, нашы ўлады на гэта зусім не зважаюць. Для іх усё добра, што яны зрабілі, хоць нашу дзяржаву ў жабрацтва пусцілі. Не магу такога я ім даравацьі буду ў газету ад сэрца пісаць. Хоць мяне не злюбяць, што так крытыкую, я магу пасляць такую ўладу к... Прабачце мне, людзі! Трэ праўду рубаць і простае слова ўладам перадаць.

**Мікалай Лук'янюк**

# Проста смех

Як вядома, у пенсіянераў многа свабоднага часу, таму я часта гляджу тэлебачанне, асабліва перадачы для сялян, напраклад, „Аграбізнес". У адной з перадач у пачатку студзеня гутарка ішла пра скупку свіней. Аказваецца, што ў нашай краіне замнога свіннога мяса і няма дзе яго дзяваць. Таму некаторыя пункты скупкі за кілаграм свініны першага класа плацілі 2,80 зл., а за другі клас — на 10 грошаў менш.

Сеў я за стол, палічыў. Атрымалася, што цяпер селянін за стокілаграмавага парсюка можа купіць 50 літраў не надта якаснага піва. Гэта ж проста смех!

А калі селянін схоча прадаць карову, то за першы клас дастане 2 зл. за кілаграм, а за чацвёрты — толькі залатоўку. Для мяне становіцца незразумелым, чаму ў такой сітуацыі не таннеюць мясныя вырабы ў крамах.

А што будзе, калі Польшча стане членам Еўрапейскага Саюза і будуць ліквідаваны мытныя бар'еры? Ці нашы сяляне вытрымаюць тады канкурэнцыю з заходняй сельскагаспадарчай вытворчасцю, якая карыстаецца дзяржаўнымі датацыямі? Аб гэтым павінны памятаць паслы, за якіх галасавалі сяляне, і якія абяцалі адмяніць эканамічнае становішча вёскі. Як да гэтай пары не відаць, каб перадвыбарчыя абяцанні здзяйсняліся.

**Мікалай Лук'янюк**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Дарагі Астроне! Сніцца мне, быццам была я аж у Чэнстахове на вяселлі з нейкім чалавекам, які мяне чамусьці дражніў. Зрэшты, на гэтым вяселлі ўсе людзі шмат пілі. Пілі гарэлку ў розных кубках, блакітных шклянках, а нават у нейкіх гліняных вазонах. Пілі і пілі.

І вось мы з дачушкай ужо на панадворку. Сядзім на нейкай лесвіцы. Бачым перад намі дарогу, яна роўная, пасыпаная нечым чорным. Гляджу я на гэту дарогу, а яна такая сумная, зрэшты, як і дрэвы, якія растуць паабапал яе, бо яны без лісцяў, шэрыя.

У пэўны момант я адвярнулася і ўбачыла за сабой трох сабак. Усе яны былі бэжавыя, з чорнымі насамі. Першы і другі былі дарослыя, у акулярах, а трэці — быццам шчанё. Першы сабака падышоў да нас, панюхаў, а мы яго пагладзілі. Падышоў і другі, таксама панюхаў нас. А таго шчанюка мы бачылі толькі здалёк, ён да нас не падыходзіў. Мы з дачкой пачалі смяяцца з тых акуляраў.

Дарагі Астроне! Я вельмі непакоюся, бо напэўна тыя сабакі абазначаюць нешта нядобрае.

**Марылька**

Марылька! Сабакі якраз не заўсёды абазначаюць нешта дрэннае. Была б вялікая пагроза, калі б гэтыя сабакі скакалі на вас, былі агрэсіўныя.

Твае сабакі са сну фактычна не кідаліся на вас, але два з іх былі ў акулярах. Акуляры ж сведчаць пра недавер, ашуканства, падазронасць. А вы ж з дачкой смяяліся з тых акуляраў, дык ваш смех таксама прадвяшчае непрыемнасці, няўдачу, сум. Пацвярджаюць гэта голыя, без лісцяў, дрэвы!

Зрэшты, за нейкую сварку і смутак гаворыць ужо тое, што ты была на вяселлі. А што было там многа п'ючых (па-рознаму), дык значыць, маеш дурняў сярод прыяцеляў.

**Астрон**

# Наша пошта

**Валянцін Семянюк, Райкі:** Мэтай тэлеперадачы, у якой праваслаўныя сем'і расказвалі пра калядную традыцыю, было данесці інфармацыю пра святкаванне Раджджаства Хрыстовага праваслаўнымі да ўсіх гледачоў Беластоцкага тэлебачання і таму падрыхтавана яна была на польскай мове. Вашы закіды ў бок удзельнікаў перадачы, што яны размаўлялі на польскай мове, а пілпаўку называлі filipowym postem і такім чынам „калечылі традыцыю і абраднасць прадзедаў, дзядоў і бацькоў" у гэтым канкрэтным выпадку зусім неабгрунтаваныя.

**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня:** Яўген Мірановіч.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 149.
**Тэл./факс:** (0 85) 743 50 22.
**E-mail:** niwa@kurier-poranny.com
**Internet:** *(wydanie elektroniczne w przygotowaniu)*

***Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.***
**Галоўны рэдактар:** Віталь Луба.
**Сакратар рэдакцыі:** Аляксандр Максімюк.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Ада Чачуга.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.

**Камп'ютэрны набор:** Яўгенія Палоцкая, Марыя Федарук.
**Друкарня:** „Orthdruk", ul. Składowa 9, Białystok.
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format). Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

***Prenumerata:***

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1999 r. upływa 5 lutego 1999 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. podlaskiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Ніўка



*Мал. Алега КАРПОВІЧА*

__Фрашкі пра нашых__

## Рада

*Міхалу Мінцэвічу*

Часам лепш не сунуць свой палец у дзверы,
Калі ломам трэба памагчы ў рабоце,
Калі ўжо не можаш залатвіць паперай,
А цноту захочуць утапіць у балоце!

Хочаш далікатна „даць да зразумення"?
Дык глядзі ты, браце, з кім ты так гаворыш;
Ці перад табою людское стварэнне,
Ці д'ябал сапраўдны табе ў вочы пора!

Часам ані словам, ні за руку ўзяўшы
Не дойдзеш да толку, просячы паправы
Ды абразумлення. Лагоднасць адклаўшы
Ўбок, за кій бярыся, каб закончыць справу!

**Вандал Арлянскі**

# Двухлітарная крыжаванка

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | ■ | 5 | 6 | *2* | ■ | *5* |
| 7 *1* | 8 | ■ | | ■ | 9 | |
| | 10 | | | | *3* | |
| 11 | | ■ | | ■ | 12 | 13 *4* |
| | ■ | 14 | | 15 | ■ | |
| 16 | | | | 17 | | *6* |

**Гарызантальна:** 1. Балінт, венгерскі паэт (1554—94), 3. смутак, туга, 5. сталіца Малі, 7. пахучы алей для царкоўных абрадаў, 9. старажытныя лічыльнікі, 10. Луіджы, італьянскі кампазітар (1904—75), 11. горад у Туркменістане ў дэльце ракі Мургаб, 12. прылада для ўзважвання, 14. нягоднік, подлы чалавек, 16. сіняватая прыпухласць на целе ад падскурнага крывазліцця пасля ўдару, 17. паласаты драпежнік, які жыве ў нары.

**Вертыкальна:** 1. сталіца Аджарыі, 2. шкло ў аконнай раме, 3. заходнеафрыканскі шэры папугай, 4. рачное судна з плоскім днішчам, 6. адміністрацыйны цэнтр штата Вермонт у ЗША, 8. Джані, італьянскі пісьменнік, аўтар „Прыгод Чыпаліна" (нар. у 1919 г.), 9. акружанне дзеля лоўлі, 11. горад, порт і адміністрацыйны цэнтр штата Амапа на поўначы Бразіліі, 13. Юрка, беларускі перакладчык і пісьменнік (1905—79), 14. прыстасаванне па якім сцякае вадкасць, 15. прываблiванне звяроў падробленым голасам.

**(Ш)**

Рашэнне крыжаванкі складуць літары з пазначаных курсівам палёў. Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 51 нумара**

**Гарызантальна:** акоп, фасад, оканне, хлор, залог, азадак, багдыхан, вугал, сурвэтка, самаўрад, слава, Гусоўскі, мачаха, аванс, мэта, мікроб, ангар, азон.

**Вертыкальна:** марабу, жалоба, Калідаса, порах, наган, янтар, галоўбух, закваска, вусы, гімн, Этна, шафа, удаўство, лівень, вандал, жаніх, Гагра, самба.

Рашэнне: **Браніслаў Тарашкевіч**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў і **Віктару Судніку** з Магілёва.

# Паэт і Наўзікая

Пакуль Паэт спаў, багіня Афіна, адказная на Алімпе за культасвет, падалася ў горад феакійцаў. Там яна ўвайшла ў палац цара Алкіноя і прыняўшы від дачкі мараплаўца Дыманта з'явілася спячай царэўне Наўзікаі. Стала багіня папракаць царэўну, што не турбуецца яна за падапечныя ёй справы культуры і навукі. Заахвочвала яна Наўзікаю ехаць з нявольніцамі к Паэту ды заказаць новы верш.

На золаку Наўзікая прабудзілася. Чым скарэй пабегла яна да бацькоў сваіх. Маці Арэта сядзела з суседнімі каралевамі і ажыўлена абмяркоўвала апошнюю нядзельную пропаведзь дэльфійскага аракула і кааліцыйныя спрэчкі ў афінскім Арэапагу наконт назначэння новых архантаў. Бацька Алкіной хістаўся ў дзвярах, быццам хварэў марскою хваробай і відавочна выбіраўся к урачам падапечным Дыонісу, сыну Зеўса і Семелы, каб падлячыцца нейкім новым нектарам.

— Татка! — прашчабятала яна, — мне патрэбна павозка запрэжаная муламі каб з'ездзіць к Паэту!

— Бяры і вон! — адмахнуў цар.

Маці Арэта дала дачцэ, каб лягчэй было гутарыць пра ўзнёслае, пернікі і віно, якое прыхавала перад мужам, каб той выпадкова не выжлукціў каштоўнага напою. Села Наўзікая са сваімі нявольніцамі ў павозку і падалася весела ў дарогу. Калі спынілася каля Паэтавага дому, весялосць тая недзе прапала, а паявіўся неспакой. Стала царэўна перад домам, а ў ім сцены трасуцца. Прасунулася яна асцярожна праз дзверы і ўбачыла, што Паэт храпе сном справядлівым, ажно столь падымаецца. Падбегла яна да Паэтавага ложка і крыкнула, што аж дзверы адпалі:

— Уставайце, спадар Паэт, а то мазалі на баках адлежыце!

— Чаго, Ваша Вялічаства? — расплюшчыў вочы Паэт.

— Верш трэба напісаць, спадар Паэт.

— Навошта, Ваша Вялічаства?

— Нашы інтэлектуалы чакаюць новага верша, спадар Паэт.

— Я ж, Ваша Вялічаства, голы. І ідэі няма.

— Навошта вам, спадар Паэт, ідэя? Вы ж не ідэолаг, толькі паэт! У школу хадзілі?

— Так, як і ўсе, Ваша Вялічаства.

— Чытаць умееце?

— Толькі польскія і рускія літары. Можа які студэнт больш...

— Можа быць і ад студэнта, хай перапіша нейкі кавалак „Адысеі". Толькі не забудзьце хаця падпісацца сваім прозвішчам, спадар Паэт. Праз тыдзень мае быць!

І праз тыдзень феакійскі інтэлектуалы захапляліся каштоўным парнасаўскім самародкам. Бо ў старажытнай Грэцыі не адзін толькі цар Мідас сваім дакрананнем замяняў усё ў золата.

**Адам Маньяк**

# Кароткі курс параноі

**Дайте в руки мне гармонь**

*— Дайте мне только трёхгодичный срок, будет и белка, будет и свисток*, — сказаў Горбі, аб'яўляючы перабудову.

*Белка* гласна захіхікала і *ускакала*. А свісток апынуўся ў надзьмутых губах мсцівага Ельцына.

* * *

— Хто *першы* стаў *апошнім*?

— Гарбачоў.

* * *

— Хто пабароў Гарбачова?

— Белавежскія зубры.

* * *

Прайшлі гады. Ельцын зняверыўся ва ўсім і ва ўсіх. З абвялых губ прэзідэнта выпаў свісток, а Гарбачоў усё той жа: адбыў (адпакутаваў) належны тэрмін *(срок)*, не памяняў веру і кінуў новы выклік рэальнасці:

*— Дайте мне только в руки руль — и я спасу Россию!*

* * *

Заўважана: гарбатага толькі магіла выпрастае *(пагаворка далакопаў)*.

Сачыў працэс

**Сідар Макацёр**

**Факс сябравіцкага паэта Галавасцюка:**

Дайте в руки мне гармонь,
Дубовые планки —
Дам Борису Вискули,
Ночную гулянку!

*(Песня Горбі)*

# „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Спрачаюцца тры хлопцы:

— Мой дзядзька — біскуп, — гаворыць адзін. — Усе звяртаюцца да яго: Ваша праасвяшчэнства.

— А мой дзядзька — кардынал і звяртаюцца да яго: Ваша свяцілеьства! — гаворыць другі.

— Мой дзядзька важыць 200 кілаграмаў і людзі, якія яго ўбачаць, шэпчуць: О, Божа!

* * *

У сям'і Кавальскіх вялікая радасць: нарадзіўся першы сынок. Шчаслівая маці запрасіла на хрысціны знаёмую варожку, якая аб'явіла, што дзіця мае магічную моц: каго назаве, той памрэ. Усе сталі абыходзіць яго здалёк. Аднойчы аднак хлопчык крыкнуў:

— Баба!

І сталася так, што ў той жа момант бабуля ўпала на падлогу мёртвая. Праз нейкі час хлопчык зноў крыкнуў:

— Дзедка!

У гэты момант дзедка сышоў са свету. Усіх апанаваў страх: хто наступны... Праз два дні хлопчык крыкнуў:

— Татка!

Кавальскі збялеў, схапіўся за сэрца, але чуе лямант за сцяною. Гэта сусед памёр!

* * *

Сужонства выбіраецца ў водпуск над мора:

— Навошта бярэш гэту чорную сукенку? — пытае муж.

— Ну, ведаеш, каханы, можа спатрэбіцца, ты ж зусім не ўмееш плаваць.

* * *

— Татка, калі я буду магчы рабіць тое, на што буду мець ахвоту? — пытае бацьку васьмігадовы сынок.

— Не ведаю. Ніводзін мужчына яшчэ так доўга не жыў.